№ 15 (224) 9 красавіка 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА ТЭРАРЫСТА

Дывэрсант, чэкіст, опер, асабіст Станіслаў Ваўпшасаў

Эсэ Сяргея Паўлоўскага. Старонка 10.

## Мірон ня сьпіць

**У чацьвер каля Лёзна на 30-мэтровай апоры лініі электраперадач напругай 35 тыс. вольт зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг.** Калі яго зьнялі, знайшлі цыдулку наступнага зьместу: "Добры гаспадар ніколі не папаўзе ўраскарачку на ўсход з працягнутай рукой, а другога такога злыдня, як наш — прайдзі сьвет, ня знойдзеш. Мірон".

Б.Т.

## Сем год адзіноты

**У мінулым сакавіку "шматвэктарная" замежная палітыка Лукашэнкі выявілася ў цікавых напрамках.**

Адрынуты эўраатлянтычнай супольнасьцю, ён працягваў шукаць дыялёгу з краінамі-ізгоямі, абвінавачанымі ў дзяржаўным тэрарызьме. Менск наведалі міністры абароны й прамысловасьці з Тэгерану і Багдаду. Яшчэ нядаўна Ірак з Іранам вёў безвыніковую крывавую вайну. Сёньня іх лучыць антыамэрыканізм на дзяржаўным узроўні. Яны напханыя савецкай зброяй, якую варта абнавіць. Для гэтага ім і трэба Беларусь, дзе захаваліся некаторыя цікавыя тэхналёгіі вайсковага прызначэньня.

Даты прыезду блізкаўсходніх гасьцей былі засакрэчаныя да апошняга моманту. Відаць, каб не ствараць ажыятажу.

**Працяг артыкулу Рамана Якаўлеўскага на старонцы 4.**

## Бардак, Кучмагейт і вясна

**У Кіеў варта паехаць не на футбол і не на рэвалюцыю, а проста рытуальна папіць "Оболонь" на Хрышчаціку. Проста таму, што вы там сто гадоў не былі.**

За восем месяцаў — столькі часу прайшло пасьля маёй мінулай паездкі ў Кіеў — можа нарадзіцца на сьвет жыцьцяздольны чалавек, цэлы Сусьвет, ня тое, што стомленасьць Менскам.

Ад'езд — нагода пабачыць хвалёны новы менскі вакзал ва ўсёй красе. Не люблю тупых "навbooротаў", хачу звыклага тунэлю. І ўвогуле: мне не да палянэзу Агінскага.

Весялосьць другога пляцкартнага вагону нейкая проста экстрэмісцкая. Найадданейшая частка заўзятараў едзе на матч моладзевых зборных. Фанатаў цягне на шчырасьць. "Хто падыме на стадыёне бел-чырвона-белы сьцяг, адразу атрымае ў табло, як увосень у Польшчы!" — абвяшчае старэйшы з фанацкай кампаніі, былы спэцназавец па мянушцы Мэтан.

**Працяг падарожных нататак Тацяны Сьнітко на старонцы 4.**

## ВЕРБНІЦА



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Дэтанатар вуліцы

Юрась Барысевіч

Нашым палітыкам не стае харызмы, якая ёсьць у Алеся Пушкіна ці Лявона Вольскага, не стае рызыкоўных учынкаў, вострага языка, моцартаўскай лёгкасьці мысьленьня. Беларуская палітыка надта нагадвае "спэктакль аднаго актора" (усе мы ведаем, якога). Каб ня даць гэтаму спэктаклю паўтарыцца на "біс", патрэбныя ня толькі перакаанаўчыя словы, але і эфэктныя жэсты (кшталту вядомай аплявухі Азаронку альбо "бітвы" пад Лёзна). Пазьняк у адным з інтэрвію выказаў слушную думку: "Нацыя пачынаецца з тэатру" (зрэшты, тое самае казалі Гётэ, Гюго і шмат хто яшчэ). Каб зьмяніць абрыдлую рэчаіснасьць, дастаткова пераўтварыць яе ў тэатар і паставіць у ім уласную п'есу.

УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

Пакуль што найбольш цікавыя вулічныя спэктаклі ў нас ставяць не палітыкі, а прадстаўнікі творчае багемы — мастакі, журналісты, паэты. Прыгадваецца прагулянка студэнтаў з закладзенымі, як у вязьняў, за сьпіну рукамі перад рэзыдэнцыяй Лукашэнкі (многія зь іх насамрэч праз гадзіну трапілі з агульнабеларускай турмы ў канкрэтны пастарунак); пікет журналістаў ля плошчы Бангалор з макетам турэмнай камэры й скрыняю лапшы, якую раздавалі людзям на вуліцы разам з тэкстам закону пра "свабоду" сродкаў масавай інфармацыі; марш журналістаў у турэмных робах і мітынг пасьля яго, дзе Славамір Адамовіч публічна зашыў сабе рот, каб зноў ня трапіць за краты за які-небудзь "няправільны" верш; марш "параненых" на чачэнскай вайне да расейскае амбасады, які наладзілі забінтаваныя кульгаючыя анархісты з "Чырвонага жонду".

Па сутнасьці, пэўныя элемэнты пэрформансу ўласьцівыя ўсім мітынгам і дэманстрацыям. Магчыма, гэта і адштурхоўвае ад палітычнай тэматыкі многіх мастакоў-эстэтаў, якія ня любяць мецць супольныя справы з натоўпам. І аднак, у антылукашэнкавых творах каньюнктуршчыны ня больш, чым у псэўдаінтымнай эротыцы альбо ў запазычаньнях з ШагалаМалевіча. Эстэтычныя экспэрымэнты рэдка могуць разьлічваць на шырокую аўдыторыю, але калі яны маюць палітычны аспэкт, дык абавязкова зацікавяць ня толькі "мастацтвазнаўцаў у цывільным", але й журналістаў. Безумоўна, нішто не старэе хутчэй за палітычныя навіны, але апалітычнае мастацтва таксама ня мае ніякай гарантыі, што ягоная праблематыка вечная. Каштоўнасьць многіх кніг і музэйных экспанатаў (і чым яны старэйшыя, тым у большай ступені) палягае менавіта ў тым, што яны адлюстроўваюць эпоху, у якую яны выйшлі зь нябыту ў наш сьвет.

Адам Мальдзіс у 2000 г. зьвярнуўся ўва ўрад з ініцыятывай пераносу загараднай рэзыдэнцыі Лукашэнкі ў Лошыцкі парк, дзе захавалася старая панская сядзіба: як вядома, рэзыдэнцыя ў Драздах пабудаваная на месцы канцлягеру.Ператварэньне яе ў мэмарыял ахвяраў нацызму дазволіла б растлумачыць замежным амбасадарам, чаму беларускія ўлады выселілі іх з Драздоў. Андэграўнд адказаў на праект Мальдзіса акцыяй "Гуканьне Лукашэнкі". Музыкі гурту "Сонца—Кветкі" й артысты Тэатру Псыхічнае Неўраўнаважанасьці ўзьлезьлі ўначы на дрэвы Лошыцкага парку й некалькі гадзінаў сьпявалі замест салаўёў патрыятычныя песьні.

**Працяг на старонцы 6.**

# Залатая жыла на мяжы

**Дэмакраты традыцыйна высьмейваюць Рыгоравіча: адкуль у яго грошы на «прэзыдэнцкія фонды» для падтрымкі вундэркіндаў і г.д? Не з уласнага ж заробку ці ганарараў гэтыя фонды папаўняюцца. Ня выключана, што ў гэтых мэтах выкарыстоўваецца славуты «канфіскат».**

Раней канфіскаванымі на мяжы таварамі распараджалася выключна Рада бясьпекі. Тады ніхто ня меў права да іх дакранацца, рэалізацыя адбывалася толькі праз Менск. Лукашэнка стварыў камісіі пры мясцовых уладах для ацэнкі й продажу сканфіскаваных рэчаў — збольшага дробязяў ды таго, што хутка псуецца. Быў таксама створаны Дэпартамэнт па гуманітарнай дзейнасьці пры прэзыдэнце, які забірае сабе найлепшыя «кавалкі» — сканфіскаваныя на мяжы аўтамабілі і аргтэхніку. Як, па якім кошце і каму гэта прадаецца — мытнікі ня ведаюць.

І апошняя цікавая акалічнасьць. Дагэтуль грошы ад продажу канфіскату ішлі ў бюджэт. А зараз дэпартамэнт будзе пакідаць іх на сваім рахунку. Не інакш, на прэзыдэнцкую кампанію. Тым больш, што ўсе гэтыя сродкі і рахункі — нікому не падкантрольныя.

**Сяргей Краўцоў, Горадня**


IREX-PROMEDIA

## навіны за тыдзень

### ВАЙНА ПЭРФОРМАНСАЎ

**“Зубр” на мінулым тыдні абскакаў Малады Фронт у негалоснай вайне пэрформансаў** — першым правёў пікет у абарону НТВ і сабраў на яго 30 чалавек. На маладафронтаўскі праз 2 дні выйшлі толькі 20. Удзельнікі пікетаў пускалі зялёныя балёнчыкі і бурбалкі, выгуквалі “Жыве НТВ” і, чамусьці, “Жыве Беларусь”.

### ТРАПІЎ У ЗАСАДУ

**31 сакавіка ў Берасьці быў затрыманы прадстаўнік руху «Зубр»,** які раскідаў улёткі ў тэатры ў часе спэктаклю «Блез і Мары». Затрымалі прадстаўніка моцнай экалягічнай арганізацыі білетніцы, якія й выклікалі міліцыю. Імя рэзыстанта з пэўных прычынаў не разгалошваецца.


IREX-PROMEDIA

**Перакладніка Васіля Сёмуху ўзнагародзілі нямецкім ордэнам «За адраджэньне». Фота з цырымоніі**

## з усёй краіны

### Смажыць

**Падрыхтоўка да Вялікадня ідзе поўным ходам — простыя грамадзяне актыўна гоняць самагонку,** а міліцыя ліквідуе лішак гэтага напою. Так, за апошні тыдзень 24 самагоншчыкі (зь іх 8 беспрацоўных, 3 пэнсіянэры) пацярпелі ад міліцыянтаў, якія зьнішчалі сьвяточнае пітво на месцы й давалі штрафу: тым, хто гоніць, — ад 3 да 5 мінімалак, тым, хто захоўвае, — да 2-х. Несправядліва.

### Ня сьмешна

**Дзень Гумару, 1 красавіка, стаўся апошнім для двух жыхароў Смургоншчыны,** якія, не згаворваючыся, павесіліся ў сваіх кватэрах. Аднаму было 50 год, другому — 47. Дарэчы, з пачатку стагодзьдзя ў раёне засілілася 10 чалавек.

**Таццяна Скарынкіна, Смургоні**

### Зьверабой

**У Шклоўскім раёне затрыманы 52-гадовы беспрацоўны, які займаўся браканьерствам.** У яго сканфіскавалі 20 скурак зайцоў, некалькі лісіных, тры незарэгістраваныя паляўнічыя стрэльбы, патроны і пасткі. Вядзецца сьледзтва.

**Паводле БелаПАН**

### Зрабі сабе дасьпехі

**14–15 красавіка ў Менску адбудзецца навучальны сэмінар па вырабе рыцарскіх дасьпехаў.** Пытаньні й заявы на ўдзел прымаюцца да 12 красавіка па e-mail: siver@folk2.lingvo.minsk.by, т. 232-00-08 (Менск).


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Менскі фэстываль альтэрнатыўнай моды «Мамант» не вылучаўся арыгінальнымі ідэямі.**

## спартовы тыдзень

# Бананы дапамаглі

**Зборная Беларусі па тэнісе выйграла ў каманды Зымбабвэ.**

Справы запахлі тухлымі бананамі ў пятніцу, калі Вова Ваўчкоў разварушыў застарэлую траўму пляча ды ня змог працягваць пачатую гульню – павялі зымбабвійцы 1:0. Максім Мірны “свайго” афрыканца абставіў. У парнай сустрэчы Мірны-Швэц першы сэт выйгралі, аднак пасьля “зьлілі” зусім белым зымбабвійцам тры партыі. Учора справы можна было выратаваць, таму беларусы інтэнсіўна сілкаваліся бананамі, якіх было навалена ў іх на століках. І перамаглі: 3:2.

Хакеісты ў Менску рыхтуюцца да нямецкага чэмпіянату сьвету, што пачнецца пры канцы красавіка. У панядзелак ды аўторак хлопцы на менскім лёдзе разамнуцца спарынгамі з “Тарпэда” зь Ніжняга Ноўгараду — расейскім серадняком. Юнацкая зборная працягвае сьвяткаваць сваё вяртаньне ў эліту, афармленае тыдзень таму ў Рызе.

У футбольнай гаспадарцы — чарговая завaруха. Прыжучылі вядомага арбітра Генадзя Якубоўскага, які, паводле сьледчых, заціскаў падаткі ды гроб “няправільныя” грошы на трансфэрных справах. А ў сераду бярэ старт нацыянальны чэмпіянат — колькасьць удзельнікаў якога скарочаная да 14-ці.

**Богусь Біятлянёнак**

# Жабы ў каляіне!

**З 15 па 20 красавіка ў Бярэзінскім біясфэрным запаведніку адбудзецца першы ў Беларусі спэцыялізаваны лягер па выратаваньні жабак і рапух,** якія ў часе міграцыяў пераходзяць шашу Бягом'е-Лепель. Арганізатары лягеру — Інстытут заалёгіі НАН Беларусі і Грамадзкая арганізацыя “Ахова птушак Беларусі”.



Найбольш даступны спосаб аховы — перанос жывёлінак цераз дарогу. Больш радыкальны — будаўніцтва адмысловых трубаў-пераходаў і ўсталяваньне плоцікаў, якія б накіроўвалі жабак у пераход.

Інфармацыю пра месцы масавай гібелі земнаводных на дарогах можна паведамляць на адрас: 220072, Менск, вул.Акадэмічная, 27, Інстытут заалёгіі, Сэктар герпэталёгіі, Навіцкаму Р. e-mail: amphi@mail.ru

## жарт



ЛЯВОН ВОЛЬСКІ

## дзе варта быць

### Народны альбом

Narodny Albom

У аўторак а 19-й у канцэртнай залі «Менск» — канцэрт «Народнага Альбому». Засталіся квіткі за 8 і 10 млн. Тыя, што за 5 і 6 млн., ужо спрададзеныя.

### *“Дзяды” ўвесну*

**У выстаўнай залі Саюзу мастакоў у Горадні адкрылася выстава «Дзяды»** кавaля Юрася Мацка. На выставе прадстаўленыя каваныя жаночыя постаці і скульптурная экспазыцыя «Дзяды».

# Пацярпелыя за Беларусь

Сябры КХП-БНФ Пятро Сарапеня, Ян Талпыга, Руслан Салаўян ды Ігар Марозаў былі затрыманыя ў ноч на 1 красавіка за распаўсюджваньне ўлётак “Абаронім Бацькаўшчыну ад расейскіх акупантаў”. Сябар Маладога Фронту Павал Мягкоў быў затрыманы ў цягніку ў Воршы, калі ехаў у Маскву пратэставаць супраць інтэграцыі Беларусі й Расеі — відаць, у Маладым Фронце адбываецца многа ўцечак інфармацыі. У Віцебску за правядзеньне несанкцыянаванага пікету Сяргею Аксімовічу далі штраф 150 мін. заробкаў. Алеся Бяляцкага і Паўла Севярынца пасадзілі на 10 начаў за Дзень Волі, Юр'я Беленькага — на 15 начаў. 2 красавіка масава затрымлівалі ўдзельнікаў збору подпісаў за незалежнасьць Беларусі, арганізаванага КХП-БНФ: пацярпелі Валянціна Мароз, Тацяна Цяцёркіна, Тамара Сакольчык, Сьвятлана Сачанка, Аляксей Тарала, Сьвятлана Бельская, Лідзія Пянькоўская, Уладзімер Кучараў, Уладзімер Юхо, Галіна Тамчук, Уладзімер Ціма-шэвіч. Аляксея Шэіна і Сержука Лісічонка затрымалі на ганку Дзярждумы ў Маскве, дзе яны пратэставалі супраць таго, што Расея квапіцца на Беларусь. Старшыню Крычаўскай арганізацыі БНФ Анатоля Белазерцава ды актывіста Валер'я Парфімовіча пакаралі штрафамі на 3 ды 5 мін. заробкаў. У Барысаве Аляксандар Абрамовіч, Алеся Ясюк, Марына Статкевіч, Алесь Барадуля і Зьміцер Фядорчанка былі затрыманыя за пакет у падтрымку НТВ. Першага пасадзілі на 10 начаў. Скіны на юнацкай тусоўцы ля “Макдональдзу” ў Менску пачалі абражаць юнакоў, якія мелі бел-чырвона-белыя значкі. Завязалася бойка. У выніку некалькіх сяброў Партыі Свабоды затрымаў АМАП. У ноч на 5 красавіка былі затрыманыя сябры “Зубра”: Аляксей Шыдлоўскі, Цімох Дранчук, Зьміцер Драпачка і Алесь Апраніч. Па факце пісаньня на сьценах заведзеная крымінальная справа паводле артыкула 341 новага кодэксу (“Апаганьваньне збудаваньняў і пашкоджаньне маёмасьці”). Пасьля трох сутак арышту іх выпусьцілі пад падпіску пра нявыезд. 6 красавіка Алега Мяцеліцу засудзілі за распаўсюд на Бялыніцкім рынку газэты «Народны Прэзыдэнт» ды налепкі «Зубр». Далі штраф 28500 руб.

## навіны гаспадарскія

# Мяса — Расеі, вёсцы — суботнік

З прычыны эпідэміі яшчуру ў Заходняй Эўропе Расея мае намер павялічыць экспарт сьвініны, ялавічыны і птушкі зь Беларусі. Аднак радавацца з нагоды “вяртаньня на ўсход” не выпадае — гаворка ідзе пра так званыя “цэнтралізаваныя пастаўкі”, вялікай карысьці ад якіх непасрэдна сельгасвытворцам не было ніколі. Няліш-не ўзгадаць, што з-за штучнага стрымліваньня цэнаў якраз жывёлагадоўля прыносіла калгасам і саўгасам асноўныя страты. Цягам апошніх год кіраўнікі гаспадарак імкнуліся пазбыцца нерэнтабэльнай вытворчасьці, і збольшага ім гэта ўдалося. Зрэшты, нягледзячы на прыкметнае скарачэньне статку, Расею накормім. А вось ці застанецца што-небудзь для беларускага гандлю — пытаньне ўжо іншае.

На мінулым тыдні “імем рэвалюцыі” камэрцыйным банкам загадалі выдаткаваць крэдыты на пасяўную. Але гэтых сродкаў усё роўна ня хопіць, таму амаль ва ўсіх раёнах Меншчыны на “просьбу працоўных” было вырашана правесьці суботнікі або пералічыць сельскай гаспадарцы частку заробку. Дзе-нідзе настаўнікам і мэдыкам патлумачылі: не дасьцё грошай добраахвотна — не пабачыце прэміі.

Яшчэ ў цікавейшым становішчы апынуліся гандляры Камароўкі. Менгарвыканкам абвесьціў аб чарговай рэканструкцыі кірмашу, падчас якой прадпрымальнікаў папросяць “вызваліць месцы”. Дамовы на арэнду зямлі, якія большасьць уласьнікаў тутэйшых крамаў маюць да 2007 г., плянуецца скасаваць бяз выплаты кампэнсацыі.

У прамыслоўцаў свая неспадзяванка. Урад паставіў умову — ніякага бартэру. За ўсё давядзецца разьлічвацца “жывымі грашыма”, у тым ліку і за энэрганосьбіты, што ўжо прывяло да “надзвычайных мераў” з боку энэргетыкаў. Адлучэньне электрычнасьці хранічным неплацельшчыкам (у тым ліку Беларускаму мэталюргічнаму заводу, магілёўскаму “Хімвалакну”, Менскаму падшыпнікаваму заводу і г.д.) пакуль было часовым, але, мяркуючы па ўсім, не апошнім.

Аднак галоўная падзея — наперадзе. Расея ўсё ж дасьць абяцаныя летась пазыкі. І, нібы ў адказ, “палата” зьбіраецца ратыфікаваць пагадненьне аб адзінай валюце 11 красавіка. “Старгаваліся”.

**Сяржук Іваноўскі**

# Дземакрацыя ўпырхлікаў

**А што, калі "НН" дыстанцыявацца ад расейскамоўнай менскай дзэмакрацыі, усіх гэтых зуброў, Жукоў ды Марцавых?**



IREX-PROMEDIA

Чытаў у "Нашай Свабодзе" гутарку з аўтарам белмоўнай кніжкі "Нараджэньне беларускага музэю" па-расейску. Маразм поўны — у зьмесьце і мове. Як наўмысна. А гэтыя "зубры"... *Где Гончар?*.. В п...дзе! — шэпча сам сабе нейкі рабацяга, згледзеўшы, што нехта ўначы размаляваў ягоны завод. Каб было па-беларуску напісана, такія казармавыя асацыяцыі не ўзьнікалі б. Мазгі набакір. 37% людзей сьцьвярджаюць, што дома размаўляюць па-беларуску, значыць іхная расейская мова — насамрэч мовазамяняльнік. Наколькі ахвотна людзі атаясамліваюць беларушчыну з дэмакратыяй!.. А гэтыя — *"Отдыхай"*, *"Где Гончар..."* Нашаніўцы, называйце рэчы сваімі імёнамі: гэта сьвядомая ці несьвядомая дэзарыентацыя грамадзтва, каша ў галовах і абсалютна непрыхаваная русіфікацыя. Бо ў ідэолягаў "Зубра" ж ня мовазамяняльнік, а мова «Пушкіна-Кукушкіна», з маскоўскімі пранонсамі.

Чаму Вы павінны зь імі гуртавацца? Базавая задача газэты — не падмануць свайго чытача ні ў чым, нават калі самі падманваецеся. Інакш усё страчвае сэнс. Найвялікшы скарб "НН" — давер чытачоў. Ніякай іншай газэце чытачы гэтак не давяраюць.

Сябры "Зубра" — гэта, відаць па імёнах, расчараваныя ў БНФ бээнэфаўцы. У хлопцаў энэргія і ахвярнасьць, а *чіпірікаючыя* кіраўнікі пускаюць яе на нішто, на *«где Гончар»*. А хлопцаў за гэта садзяць. Энэргія ідзе на пшык, на ўмацаваньне страху і комплексу ахвяры ў беларусаў. Так гэта ўяўляецца адсюль, зь Нью-Ёрку. Дык чым у такім разе "Зубр" лепшы за РНЕ?

Мовазамяняльнік нацыі і расейшчына зуброў — розныя рэчы. Нацыя чакае эвалюцыі ў беларушчыну, а гэтыя ёй падсоўваюць расейшчыну. Гэта што, дземакрацыя?

* * *

Не дае спакою й іншае пытаньне — навошта Лукашэнку зноў быць прэзыдэнтам? Толькі дзеля асабістага камфорту — гучыць абразьліва для ўсіх нас. Вы надрукавалі «Народ супраць Лукашэнкі» — чыстую прапаганду і найперш для сябе, для сваіх. Яна й лукашэнкаўская прапаганда — падобныя (ці ўзаемазьвязаныя) дыскурсы. А вось каб даць «Беларусь — 7 гадоў за Лукашэнкам», каб і сабе, і іншым усьвядоміць, што за эпоха, што набылася, што страцілася... Ня столькі мітынгі й Ганчар, а болей — пра непасрэдна датычнае людзей. Вазьміце, што Лукашэнка хацеў зрабіць і што зрабіў. Мой прагноз — яго выберуць зноў, але адразу пасьля гэтага ягоны "рэйтынг" упадзе ніжэй дзясяткі.

Вось бы Вы зрабілі такое вулічнае апытаньне: "Навошта Лукашэнку зноў быць прэзыдэнтам?" Цікава.

* * *

У "НН" была такая рубрыка "Пазытывы". Яе памылка — рабіліся яна насуперак паганай рэчаіснасьці. Як са злосьці. А гэта тое самае, што лажаць. Як лажаюць Беларусь на сваіх сходках новаэмігранты ў Варшаве, Празе, Брусэлі, Нью-Ёрку. Ніхто ж, сабакі, не вярнуўся, ніхто капейчыны ня даў на справу, ніхто "НН" не выпісвае, а іх жа тысячы. Адно лажаюць — якія ў Менску засцаныя пад'езды, які калхозьнік Лу...ка, якая паліцэйшчына! І тут нехта зь іх, чыста дзеля інтрыгі размовы — не скажыце, ёсьць і пазытывы. Вось гэтак атрымлівалася і ў "НН".

Уся дзейнасьць "НН" — пазытыўная паводле вызначэньня. Чаму мяне каробяць гэтыя «арыштаваныя ў Менску»? Бо ладная частка зь іх — заўтрашнія *ўпырхлікі* (палітуцекачы, пачэску), якія будуць там абкладаць Беларусь. Бо "за што" яны арыштаваныя? "Где Гончар" на гэтае пытаньне і адказаў. У краіне няма ніводнага выданьня з пазытыўным зьместам. Такога, каб, пачытаўшы яго, дзеду з Аўстраліі захацелася легчы ў сваю зямлю, каб захацелася інвэставаць у беларушчыну, а не ў "дыктатуру" й барацьбу зь ёй. Ды ведаюць яны ўсе цану гэтай дыктатуры — і ў Нью-Ёрку, і ў Парыжах. А не вяртаюцца, нават ня езьдзяць, бо ні халеры цяпер яны ў Беларусь ня вераць. І тая дыктатура для іх — пэрыфраз іхнае няверы. Зь іншага боку, як паверыш, чытаючы наскрозь хлусьлівы афіцыёз, або клікушную "НарВолю", або губэрнскую "БДГ", або "НН" зь яе «Народ супраць Лукашэнкі». Дзе тое, што мацавала б веру?

Дзе выданьне, што ў патоку жыцьця разглядала б сьцьвярджальныя рэчы або трактавала б сьцьвярджальна тое, што быццам ніякае?

* * *

Найбольшая праблема беларускіх праектаў, як я разумею, — распаўсюд. Нібыта існуе 500 недзяржаўных арганізацыяў па ўсёй Беларусі. Цікава, чым яны займаюцца? Разумею, што гранты ссуць, але ня толькі ж гэта. Што, кожная такая не магла б купляць 3 кніжкі выдавецтва "НН" па даляры ці 3 часопісы "Arche"? Ня можа арганізаваць рэалізацыю 10 кніжак і "Arche"? Ня можа падпісаць на "НН" 10 чалавек ці хоць бы саміх сябе? Калі ня могуць, дык на халеру яны існуюць? Кабназьбіраць выразак «арыштаваныя ў Менску» (і тут жа адпушчаныя) для асабістага дасье і ўпырхнуць на прытулак? Каб там сядзець і лажаць Беларусь? Трэба ставіць гэтае пытаньне, бо гэта ўсё ўжо ператвараецца ў пошасьць — ніякі Лукашэнка не дакажа. А вы надалі б сэнс іхнаму існаваньню, яны сталі б кнігаўношамі, падымалі б узровень нацыі. Хіба гэта не высакародна? Арганізуйце такі круглы стол, калі ласка.

**Невядомы Жаўнер, Нью-Ёрк**

# Дуброўскі настрой

Учора спытаў адну маму, чаму ейнага дзіцяці не было на ўроках. Мама сьпярша сумелася, а потым кажа: не пасьпела зашыць хлопчыку штаны, а іншых няма. Бацька трактарыст, маці гаруе ў дзіцячым садку. Ня п'яніцы абое. Горка.

Тым часам начальніца сельрады з Кадаша — таго, што трос Сілівончык год таму са зграяй сыбірскіх ваўкоў, — на сэсіі Вярхоўнага савету Сьветлагорскага раёну лямантавала: "Што гэта вы ня можаце разабрацца зь нейкім настаўнікам?!"

Са мною, значыцца.

Тым часам Вінцук у халоднай.

Акупанты...

Етыя апоўзлыя жабы не палінялі і нават жаргону не памянялі.

Загадзя віншую са сьвятам Вялікадня. Хай з Вамі будзе ласка Божая.

**Мікола Бусел, Дуброва**

## ВОДГУКІ

# Апраўданьне нікчэмнасьці


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Лухту піша сп.Чобат (№14) пра беларускі народ.** Няхай ён прыедзе ў вёску Блізьніца, што пад Полацкам, і паглядзіць, як у беларускай "дзярэўні" аўстрыйскі безнасовец Франц Еган Райнль пабудаваў клясычны капіталізм. З выключным парадкам. З культурай і беламі халатамі. На гэта яму спатрэбілася паўмільёна даляраў, за якія ён пабудаваў у вёсцы заводзік па перапрацоўцы мяса, і год часу. Калі я спытаўся ў сп.Райнля, дзе ён узяў адказных працаўнікоў, аўстрыец патлумачыў: "Калі я пачаў ствараць працоўны калектыў, прыйшло сто ахвотных. Я выбраў 20 чалавек. У нас вельмі жорсткія правілы. Праца пачынаецца а сёмай раніцы. Вароты зачыняюцца на ключ. Тры спазьненьні — і ты звольнены. Пра п'янку няма й размовы. Людзям прыйшлося пазбаўляцца сваіх шкодных звычак".

Я на свае вочы бачыў тых людзей. Працуюць, як колцы ў гадзіньніку, затое й грошы зарабляюць добрыя. Дый вёскі зараз не пазнаць, паўстае птушкай Фэнікс з калгаснага папялішча. Упарты аўстрыяк стаў косткай у горле тутэйшым чыноўнікам. Амаль штотыдзень пачалі наведваць Блізьніцу розныя правяральшчыкі. У спадара Райнля хапае нэрваў сустракаць кожнага.

Ад аўстрыйскага бізнэсоўца пачуў наступнае: "У Беларусі можна ствараць рай, але толькі трэба прыбраць дзьве рэчы — тутэйшых палітыкаў і гарэлку". Вось і ўвесь сакрэт. А вы хочаце і гарэлку жэрці беспрабудна, і жыць як у Швэцыі, дзе п'яных падбіраюць на вуліцы, вязуць у рэабілітацыйныя цэнтры, кормяць з лыжачкі і казкі перад сном баюць. Такія тэксты выглядаюць на пошукі апраўданьня сваёй нікчэмнасьці. Маўляў, уся справа ў народзе. Адзін патрабуе ад яго чачэнскай адвагі, другі — чэскай салідарнасьці, трэці — літоўскай еднасьці. А беларус усё адно застанецца беларусам.

І ня трэба гэтак шкадаваць ППРБ. Гэта не "народ яму на галаву сеў", а ён разлёгся на народзе. Гэта яму патрэбны знуджаны, сьпіты, запужаны, бязвольны беларускі народ. Іншы б трываць яго ня стаў.

Народ — гэта гурт дзяцей. За лёс краіны адказвае ня ён, а эліты. На пачатку 90-х Беларусі неверагодна пашанцавала. Бывае, граеш у "дурня" і пры раздачы атрымліваеш адныя козыры. У гэтым выпадку нельга на пачатку гульні прымаць сур'ёзны бой. А мы захацелі ўсё адразу — і сьцяг, і герб, і Пазьняка, і дабрабыт, і мову, і свабоду. І засталіся ў дурнях.

**Алесь Аркуш, Полацак**

# Спазьненьне на эпоху

**Шаноўны Алесю Чобат,**

Сапраўдная рэвалюцыя пачынаецца толькі зараз. Рэвалюцыя сьвядомасьці, бо, як правільна вы адзначылі, "ня так гэта проста — сябе памяняць".

Праз 15 год тым, каму сёньня 20, будзе 35, а каму 30 — стукне 45 год. Іх не прымусіш працаваць за так. Яны захочуць смачна есьці, прыемна кахаць, мець камфортны легкавік, жыць у сучасным двухпавярховым доме, выяжджаць за межы краіны да цывілізаваных людзей.

Іх не задаволіш бутэлькай піва ці чарніла або шпрыцам з прывазным дурманам. Яны захочуць якасьці жыцьця.

У бліжэйшыя 15 год адбудзецца шмат чаго. П'яніцы і алькашы з большасьці насельніцтва паступова пяройдуць у меншасьць.

Хочаш жыць — круціся, ня хочаш — памірай. Прыкладна такой будзе калектыўная думка. Як толькі калектыўная сьвядомасьць разьвітаецца з вобразам "добрага бацькі", узьнікне патрэба ў існаваньні Закону, якому падпарадкоўваюцца ўсе — ад прэзыдэнта да звычайнага грамадзяніна.

У чым слабасьць рэжыму? У тым, што ён не дазваляе людзям зарабляць шмат грошай! Гэта значыць, не дазваляе шмат працаваць!

Ува ўсім сьвеце, каб аб'яднаць людзей бедных і багатых, карыстаюцца Нацыянальнай Ідэяй. Ты бедны, ён багаты, але вы — браты па крыві. Таму бедны паважае багатага, заможны дапамагае беднаму, дапамагае разьвіцьцю нацыянальнай культуры як асяродку, дзе высьпявае нацыянальная ідэя.

Там, дзе гэтага ня робіцца, ствараецца грымучая сумесь — бедныя ненавідзяць багатых, тутэйшыя ня любяць прыхадняў, а калі тыя яшчэ і багатыя ці займаюць уладныя крэслы — ненавідзяць удвая.

Праз 15 год адбудзецца поўная зьмена савецкага пакаленьня, зьмена актыўнага слою ад 20 да 45 год. Новы слой прагматычны, на байкі пра райскае жыцьцё на тым сьвеце ня торкне, у сьветлую будучыню не паверыць таксама. Яму давай магчымасьць сёньня жыць, зарабляць, радавацца, пакуль ён малады.

Неразумныя паедуць зарабляць на лякальныя расейскія войны. Але разумныя хочуць удзень зарабляць, а ўвечары з прыгажуняй сядзець у каварні. Герой нашага часу — прадпрымальнік на шыкоўным "Мэрсе", а не калека з алюміневым мэдалём *"За храбрость"*.

Сёньня селянін у асноўным зьнішчаны, ператвораны ў сельскагаспадарчага работніка. Селяніна ня створыш у школе, акадэміі, унівэрсытэце, гэта стан сьвядомасьці, стан душы. Сялян засталося вельмі мала, усю зямлю яны ня ў стане забраць. Дзяржава, улада спазьнілася на 35-40 год са сваімі рэформамі. Існуе меркаваньне, што, калі аддаць зямлю сельскагаспадарчым работнікам, рынак самастойна адрэгулюе ўсе эканамічныя стасункі. Гэта інфантыльны ідэалізм!..

...Такім чынам, на пытаньні сельскагаспадарчага комплексу так проста ня знойдзеш пераканаўчага адказу. Патрэбна ўдумлівая прафэсійная праца, вялікія фінансавыя ўкладаньні. Інакш нам ня будзе чаго есьці ўжо заўтра.

Сучаснае пакаленьне інтэлектуалаў сёньня ставіць пытаньне аб стварэньні нацыянальна сьвядомага грамадзтва. Улада клеіць ім ярлыкі нацыянал-фашыстаў. Праз 15-35 год жыцьцё само ткне ўладу пысай аб цьвёрды асфальт "нечаканай" праблемы, сутыкнуўшы з грамадзтвам, не аб'яднаным аніякай стваральнай ідэяй. Намаганьнямі палітычных "стратэгаў" кшталту Посахава і Заматаліна мы атрымаем другое Косава, Карабах, Босьнію. Вось тады ўлада пачне рэформы па стварэньні нацыянальна сьвядомага беларускага грамадзтва, але расклад сілаў будзе зусім іншы.

Як заўсёды, улада ізноў спазьняецца на цэлую гістарычную эпоху.

**Кастусь Травень, Менск**

## прэзыдэнт — 2001

*Як Вы ацэньваеце ход перадвыбарнае кампаніі на мінулым тыдні?*



**Вядома ж ДОМАШ!**



**АЛЕГ МАНАЕЎ, кіраўнік Незалежнага інстытуту сацыяльных, палітычных і эканамічных дасьледаваньняў:**

Важнымі падзеямі мінулага тыдня былі сьвяткаваньне гадавіны саюзу Беларусі й Расеі, жорсткая рэакцыя на Дзень Волі, аб'яўленьне кіраўніцтвам КРДС пра выпрацоўку адзінай праграмы і заява Лукашэнкі, што Захад выдзеліў 500 млн. даляраў на падтрымку апазыцыйнага кандыдата. Сьвяткаваньне юбілею — спроба выкарыстаць у выбарчай кампаніі настрой людзей, якія станоўча ставяцца да Расеі.

На гэтым тыдні былі вынесеныя прысуды Вячорку ды Бяляцкаму. Улада карыстаецца самым брутальным сцэнарам падрыхтоўкі да выбараў, і надзеі на кампрамісныя варыянты кшталту мінулагодняга круглага стала зьмяншаюцца.

Заява Лукашэнкі проста сьмешная: югаслаўскай апазыцыі ЗША за два гады выдзелілі толькі 41 млн. даляраў. Але яна сьведчыць, што ўлады ня толькі выкарыстоўваюць сцэнар зачысткі тэрыторыі ў адносінах да дэмакратычных сілаў унутры Беларусі, але й максымальна блякуюць падтрымку з боку сусьветнай супольнасьці. Заяву старшыні КРДС я лічу добрым крокам. Варта засяродзіць усе намаганьні на выпрацоўцы праграмы, якая б найбольш падыходзіла прадстаўнікам розных дэмакратычных сілаў. Гэта падвысіць шанцы дэмакратычных сілаў на больш эфэктыўную падрыхтоўку да выбарчай кампаніі.

**Гутарыў Алесь Кудрыцкі**

# Уласныя вочы пільней за ўсім сочаць

Грамадзкія арганізацыі падрадзіліся стварыць сетку назіральнікаў за выбарамі. Ейная галоўная задача — "незалежнае непартыйнае назіраньне за выбарамі". Недзяржаўныя арганізацыі зьбіраюцца падрыхтаваць 10 тысячаў назіральнікаў. Калі гэта ўдасца, тады можна быць пэўнымі, што нашых галасоў на выбарах ніхто не ўкрадзе.

**Ахвотныя стаць назіральнікамі могуць зьвяртацца на тэлефоны ў Менску:**

**213-43-52 (Таварыства Беларускай Мовы)**

**231-08-44 (Праваабарончы цэнтар "Вясна")**

# Сем год адзіноты

*Беларускі экспарт скарачаецца, а валютныя рэзэрвы павялічыліся. Мо Замяталін нешта гатоўкаю прывёз з Багдаду?*

Працяг са старонкі 1.

Былі спадзяваньні, што атрымаецца заманіць у госьці прэзыдэнта Ірану, Махамада Хатамі, аднак, ён вяртаўся з Масквы, дзе быў з афіцыйным візытам, праз Казань, а не праз Менск. Замест яго прыляцеў іранскі міністар абароны. Так атрымалася, што Лукашэнка быў заняты нечым іншым і не адразу прыняў госьця. І той быў вымушаны колькі гадзінаў аглядаць цікавосткі беларускай сталіцы, што, ясная справа, паўплывала на пэўныя пункты праграмы ягонага рабочага візыту. Асноўная частка гутаркі прайшла пры зачыненых дзьвярах. Відаць, міністар абароны Ірану паведаміў сваім беларускім суразмоўцам, што прадукцыя іх ВПК зьвязваецца з расейскімі сумежнікамі. Існуе вострая неабходнасьць у пастаўках прадукцыі двайнога прызначэньня, зьвязанай з рэалізацыяй ракетнай праграмы Ірану. Не жадаючы ўскладняць і без таго прахалодныя адносіны з ЗША, Расея найбольш рызыкоўныя пастаўкі перадаверыць свайму беларускаму стратэгічнаму хаўрусьніку.

А вось "супрацоўніцтва ў індустрыяльнай сфэры" абмяркоўвалася ў часе рабочага візыту міністра прамысловасьці і прыродных выкапняў Іраку Аднана Абдэль Маджыд Джасэма. Паводле афіцыйных зьвестак, аб'ём узаемнага гандлю мусіць сёлета павялічыцца з 8 да 35 млн. даляраў. Беларусь экспартавала ў Ірак трактары, прычэпы, а таксама запчасткі й абсталяваньне да іх. Падчас гутаркі з ірацкім госьцем Ярмошын наракаў на санкцыі ААН супраць Іраку, якіх Беларусь вымушаная трымацца. Візыт супаў са зьяўленьнем інфармацыі, што адміністрацыя Буша схільная скасаваць некаторыя эканамічныя санкцыі супраць Іраку, засяродзіўшы ўвагу на самім Садаме Хусэйне, ягоным найбліжэйшым атачэньні і патэнцыяле вытворчасьці зброі масавага зьнішчэньня. Амэрыканцы маюць намер узяць пад кантроль прадукцыю двайнога прызначэньня. Не застанецца без увагі і прадукцыя Менскага заводу колавых цягачоў, дзе на базе адной мадэлі робяцца як цалкам мірныя цягачы, так і мабільныя пускавыя ракетныя ўстаноўкі. Беларускія цягачы вельмі папулярныя ў расейскім і кітайскім войсках. Але іх зьяўленьне ў Іраку, пасьля пагрозаў Хусэйна вызваліць Ерусалім, можа стварыць Беларусі новыя праблемы на міжнароднай арэне.



У часе гутарак Лукашэнкі з ірацкім міністрам Рада Бясьпекі ААН адзінагалосна прыняла рэзалюцыю, дзе асуджала Багдад за адмову даць інфармацыю пра 600 зьніклых падчас ірацкай агрэсіі кувэйтцаў.

Падчас свайго візыту ў Менск ірацкі міністар абмяркоўваў і праект зборкі менскіх трактароў у ваколіцах Багдаду. Маўляў, большая частка насельніцтва Іраку занятая ў сельскай гаспадарцы, таму попыт на трактары павінен быць. Невядома, наколькі гэты праект улічвае горкі досьвед колішніх грандыёзных плянаў наладзіць рэгулярныя пастаўкі трактароў у Пакістан, дзе яны так і ня сталіся шырока даступнымі для сялянаў.

Але ў афіцыйнага Менску ўжо ёсьць і ўласна ірацкі горкі досьвед. Беларусь мела неблагія шанцы выйграць тэндэр на будаўніцтва цеплаэлектрастанцыі ў Іраку. Кантракт ацэньваўся прыблізна ў $740 млн. Беларускі бок прадстаўляла ААТ "Белэнэргабуд", шчыльна зьвязанае з расейскім капіталам. У выпадку перамогі 60% сумы кантракту павінна было трапіць расейскім падрадчыкам з "Электрамашэкспарту". Чакалася, што посьпеху павінен быў садзейнічаць візыт у Багдад асабіста А.Лукашэнкі. Аднак тэндэр выйгралі кітайцы. І ў Багдад першым чартэрам зь Менску паляцеў Замяталін, якога заўсёды прымае Хусэйн. Пра што яны там удвох гутараць, відаць, нават Аллаг ня ведае...

Ня выключана, што Хусэйн вырашыў кампэнсаваць менскім сябрам паразу. Так ужо супала, што пасьля вяртаньня Замяталіна з Багдаду Лукашэнка раптам паблажліва заявіў, што калі Расеі цяжка даць абяцаны 100-мільёнпы крэдыт, дык і ня трэба. Потым галоўны банкір Пятро Пракаповіч узяў і павялічыў валютныя аруды Нацбанку на 100 мільёнаў. Дзіўная зьява — беларускі экспарт скарачаецца, а валютныя рэзэрвы павялічыліся. Мо Замяталін нешта гатоўкаю прывёз з Багдаду?

**Раман Якаўлеўскі**

# Бардак, Кучмагейт і вясна

Працяг са старонкі 1.

"А чырвона-зялёны?" – "І чырвона-зялёны. І жоўта-блакітны. Футбол будзе чыстым і па-за палітыкай!" – раве Мэтан. Услых яго ніхто з кампаніі не падтрымлівае. "Байк" (шалік) – любога колеру, а сьцягі – ненавіджу!" – працягвае ён.

Мытнікі неабачліва будзяць фанатаў. Мэтан пасьля пераезду мяжы доўга падбівае ўсіх скандаваць "Лука – мудак!" Да ранку вагон слухае спрэчкі, хто калі на якой хвіліне забіў ва ўсіх матчах усіх чэмпіянатаў апошніх гадоў дваццаці. Уперамежку зь "перамацьцю". Сьвята набывае карнавальны імпэт пасьля Чарнігава: гапатная частка вагону трасе кожнага другога за плячо, запрашаючы на новую пляшку.

За два дні футболу ў Кіеве адбыліся дзьве буйныя бойкі каляфутбольных адмарозкаў. З аналягічнымі прадстаўнікамі ўкраінскага боку я пазнаёмілася 8 месяцаў таму: яны лаялі Кучму, жахаліся Лукашэнкі й казалі, што ў Беларусі трэба ўвесьці рабства – супраціву ня будзе. Давялося мірнымі падручнымі сродкамі імгненна давесьці адваротнае. Кактэйль з мудрагелістай назвай кшталту "СС-300" негвалтоўна сьцякаў з галавы ворага. Пераблытаўшы назву напою, фанаты цяпер перадавалі мне прывітаньне як "той беларускай тэрарыстцы".

Менская й кіеўская каляфутбольная гапата аднолькава вяшчае пра апалітычнасьць і адначасна не ўспрымае кіраўнікоў сваіх дзяржаваў. Розьніца ў ступені назапашанай унутранай агрэсіі. У "простага беларуса" яе больш, чым у гэткага ж сярэдняга "простага ўкраінца". Прынамсі, я пакуль ня чула, каб тыя мэтаскіравана шукалі нагоды "мачыць" сваіх жа – тым больш у рэдкіх шэрагах сваіх сярод не сваіх, у сытуацыі, што вымагае хоць часовай салідарнасьці.

* * *

Лаючы ў думках фанатаў і злую долю, кандыбаючы да сяброў на каву, раптам прачынаюся. Ня памятаю гэткага вэрхалу на кіеўскім вакзале. Не адчуваю, што кудысьці зьехала зь Менску.

Ого! Што за манера ў нашых прэзыдэнтаў капаць равы, гарадзіць платы, грукаць камянямі, раўсьці бульдозэрамі – проста сярод прывакзальных плошчаў? Паназіраўшы колькі хвілінаў глябальную рэканструкцыю чыгуначнага вакзалу, лаўлю сябе на дзіўнай задаволенасьці. Не, не дагоніць Кучма Лукашэнкі – калі не па тэрміне будоўлі, дык па лукашэнкаўскай пампэзнасьці выніку. Куды тут уцісьнуць гэткі кілямэтар мармуру!

Праз паўдня, сыходзячы па Інстытуцкай на Майдан Незалежнасьці, замест фантанаў зноў бачу панараму з бульдозэрамі й плякатамі. Вось табе й месца тусовак апазыцыі. Поўны аблом. Ну проста плошча Якуба Коласа...



IREX-PROMEDIA

Цікава, а дзе ў іх тут свой "Бангалор"?

* * *

– Халера яго ведае, што ў нас тут адбываецца! Я ўвогуле не ўкраінец, не беларус, я... – Саша хітра прыжмурваецца, разьліваючы каву, – маскаль і грамадзянін Расеі.

Былы савецкі разьведчык, а цяпер падстаўлены начальствам украінскі бомж, Саша служыў у тым жа "гарачым пункце", што й былы савецкі спэцназавец, а цяпер футбольны хуліган Мэтан. Нават на адным прарасейскім баку. Цяпер ён ня б'ецца на кіеўскіх вуліцах, а дапамагае правай апазыцыі раздаваць антыкучмаўскія ўлёткі. З-за сьцяны чуваць мяўчаньне Уладзімера Уладзімеравіча Пуціна – вялізнага чорнага ката, падабранага дзесьці нашай супольнай сяброўкай.

Саша ўпэўнены, што ягоныя дакумэнты скралі расейскія спэцслужбы не без дапамогі ўкраінскіх уладаў. Гэта вельмі доўгая гісторыя, але яна дае Сашу права адпаведна ўспрымаць абодвух прэзыдэнтаў.

* * *

...А няма ў іхным Кіеве ніякага "Бангалору"! Да рэзэрвацыяў справа не дайшла. Пакуль.

Вось яны, сьцяжкі-значкі-касэты айчыннай музыкі. Каля плоту побач з будоўляй! І зусім не дзеля апазыцыйных акцыяў абгароджаны плотам Майдан. У жніўні будзе *"10-та річниця Незалежності"*, і ўлады рамантуюць да гэтае даты ўсё, што могуць.

Некаторым маім сябрам-украінцам не падабаецца праект будучага манумэнту Незалежнасьці: "Голая баба трымае ўгары вянок". Ня бачыўшы, не магу параўноўваць ні са статуяй Свабоды, ні з мальтыйскай *Indipendenza*. Але 10-я ўгодкі незалежнасьці сёлета сьвяткавацьмуць усе краіны экс-СССР. Толькі Беларусь адзначыцца чарговай прадказальнай прамовай ППРБ і парай тысячаў сьвядомых дэманстрантаў.

– Яку річницю сьвяткавацьме Беларусь? Афіцыйна вашай Незалежнасьці колькі гадоў – 46? – пытаюцца калегі з *"України Молодой"*.

Доўга тлумачу пра 25 сакавіка, 27 ліпеня і дзень вызваленьня Менску. Калегі зьдзіўляюцца, заблытваюцца й просяць выкласьці, што, як і хто за што, у пісьмовым выглядзе. А Беларусь праз тыдзень зьдзіўлена даведваецца з афіцыёзу, што мы сьвяткуем саюз з Расеяй, якому насамрэч не стагодзьдзі, а толькі 5 гадоў.

* * *

– Я табе раскажу, што ў нас тут адбываецца. Гэтыя прыдуркі хочуць скінуць Кучму, і правільна ён іх паразганяў. А я... – колішні заўсёднік камэраў на менскай вуліцы Акрэсьціна ўсьміхаецца, – цяпер на іншым баку барыкадаў.

Павал упэўнены, што Кучму падставіла ЦРУ. Падсунула свайго шпіёна, інакш чаго яго хавае на нейкай натаўскай вайсковай базе. Амэрыка з Расеяй дзеляць сьвет, Украіна мусіць стаць сатэлітам Масквы, Кучму прымушаюць прасіць у Пуціна дапамогі...

Чалавек некалі абвясьціў сябе "лідэрам менскай суполкі ЎНСО", якой не існавала ў прыродзе. Цяпер той жа чалавек выказвае задаволенасьць, што 15 лідэраў рэальных абласных суполак той жа ЎНСО сядзяць у СІЗА. У некаторых зь іх – чэрапна-мазгавыя траўмы, а Руслана Зайчанку з Чаркасаў увогуле арыштавалі пасьля дзьвюх апэрацыяў, проста з больнічнае койкі...

– А што там у нас дома, ці знайшліся гэтыя прыдуркі? – пытаецца Павал.

Я "не ўрубаюся". Ён удакладняе: "Ну, Ганчар, хто там яшчэ?" Ён гаворыць пра зьніклых словамі Зімоўскага. Ён выказвае надзею, што Лукашэнка пераможа на выбарах, і за новы тэрмін ягонага цараваньня былы менскі сацыял-дэмакрат пасьпее стварыць уласную партыю.

Ну, ясна, бяз Паўла Карназыцкага, былога лідэра Маладой Грамады, беларусам дыктатуры ніяк і ніколі не перамагчы!

– А ўсё-ткі мяне ў Менску падставілі. Не вярнуся, пакуль не адчыняць гэбэшных архіваў, ня ўбачаць, што я ня быў стукачом... Ды не хадзі ты на мітынг ля помніка Шаўчэнку! У Менску табе ціхамірна, дык тут улезьці куды карціць!

– А ты што, ужо аддаеш загады на разгон украінскай апазыцыі? Не? Ну дык паехалі са мной на Дзень Волі ў мірны Менск.

* * *

Ня буду доўга пісаць пра падзеі 9 сакавіка, але гэта было не зусім тое, што ўяўлялася пасьля БТ альбо ОРТ. Урэшце ня мае маральнага права асуджаць "экстрэмізм" апазыцыі той, хто сам хоць раз кідаўся (хоць і няўдала) камянямі. Зрэшты, суседзі ў чымсьці мелі рацыю: лепей было б – тухлымі яйкамі.

* * *

Кучма зьехаў у "кароткатэрміновы адпачынак" пасьля 9 сакавіка і ажно да футболу 24-га. Кіраўнік МУС Юры Краўчанка то зьняты, то ўжо не, то выводзіць да парлямэнту 20 тысячаў міліцыянтаў. Тыя стаяць і патрабуюць падвышэньня заробку... Міністар ня зьняты. Потым тыя ж хістаньні – з арыштамі й вызваленьнямі Юліі Цімашэнкі. Экс-віцэ-прэм'ерка – украінскі варыянт нашага Чыгіра. Толькі яшчэ круцейшы: мае ўласную партыю "Бацькаўшчына" й шанец аб'яднаць апазыцыю. У яе таксама паўсям'і сядзіць...

24 сакавіка апазыцыя праводзіць шэсьце "Шлях жалобы" ў памяць другіх угодкаў гібелі Вячаслава Чарнавола, якога лічыць забітым спэцслужбамі. Наперадзе шэсьця нясуць партрэты Чарнавола й Георгія Гангадзэ. Транспарант побач папярэджвае, што "наступным можаш быць ты". Чырвоных сьцягоў у калёне няма, правыя партыі болей ня ходзяць на дэманстрацыі з камуністамі, як раней – лічаць іхную "барацьбу з рэжымам Кучмы" дэмагогіяй.

Няма на вуліцах і ніводнага міліцыянта з мэгафонамі. (У нас у адсутнасьць кіраўніка дзяржавы ў сталіцы ўсё звычайна не суцішваецца, а абвастраецца.) Калі я знаходжу праз гадзіну пасьля шэсьця групу ахоўнікаў парадку й пытаюся іхнай думкі пра фінал акцыі, адказваюць бесклапотна: "Ды мы за імі не сачылі! Толькі на працу прыйшлі. Кучму – геть? Ну, геть, а нам що?"

Апоўначы мы з прыяцелем ідзем па цэнтры Кіева. Народу перад выходнымі амаль гэтак жа шмат, як было ўдзень. У падземным пераходзе побач з будоўляю Майдану – шумна, гулка, сьвяточна. Народ п'е напоі й слухае тры канцэрты вулічных музыкаў у розных калідорах пераходу, разьдзеленых кавярнямі, адкрытымі і ўначы. Вось, здаецца, тусоўка на наш густ: украінскамоўны рок з жывым гукам. Але я не магу слухаць. Бязь ветру я вось-вось адрублюся, засну і ўпаду. Хутка будзе двое сутак бяз сну. Лепей ісьці пехам па прахалодзе, інакш з гэтага мэтра мяне прыйдзецца вынесьці. І мы ідзем...

– Што такое? – зь цікаўнасьцю пытаецца сябар, калі я рэзка спыняюся і змаўкаю на паўслове.

Праз сэкунду аслупяненьня на прыступ нашага рогату азіраюцца людзі на вуліцы: нэонавае *"Познякижилбуд"* – гэта шыльда будаўнічага прадпрыемства мікрараёну Пазьнякі, самае дынамічнае новабудоўлі Кіева.

* * *

А па прыезьдзе быў наш Дзень Волі. Апазыцыю зноў пазаганялі ў загоны ачапленьня, потым яна чамусьці думала, што йдзе шэсьцем сама... пад канвоем і прызначаным ня ёю маршрутам. Сто крокаў улева – і палова ўжо ўцякае ў парк. Дзе "больш за сто арганізатараў", каб паставіць умовы Навумаву? Дзе аматары гандысцкіх мэтадаў непадпарадкаваньня, каб заклікаць сотні людзей сесьці на зямлю вакол аўтобусаў з захопленымі дзяўчатамі? Добра, няма негвалтоўнай Гразновай ці арганізатара Вячоркі. Дзе радыкалы, каб адбівацца, хвалёная дружына БНФ?..

Людзі далі сябе засадзіць у турму толькі за "сто крокаў улева" і таптаньне на месцы. І гэтыя вечныя ахвяры рэжыму ўсур'ёз маюць намер замяніць уладу ў краіне?!

Мы можам не падтрымліваць украінскай (як і любой іншай ня нашай) апазыцыі, тым больш, калі тая падаецца няздольнай перамагчы. А якога ражна падтрымліваем апазыцыю беларускую? Пачакайце, хай пакажа, на што здатная яна. Ня трэба фанатызму. Галоўны герой Дня Волі – міністар Навумаў. Гучыць сьмешна.

І на халеру, атрымліваецца, я зьехала з Кіева на дзень раней?

**Тацяна Сьнітко**

# Дэтанатар вуліцы

Працяг са старонкі 1.

(Парк, у які быў запрошаны жыцць Лукашэнка, скарыстоўваецца гарадзкою санітарна-эпідэміялягічнаю станцыяй для пахаваньня хворых жывёлаў.)

Прысмак палітычнага фарсу маюць многія канцэрты рок-гуртоў, і найперш N.R.M. (са свайго боку, мітынгі апазыцыі, у якіх ахвотна бяруць удзел музыкі, можна разглядаць як своеасаблівыя рок-опэры). Лявон Вольскі й Алезіс Дзямідовіч часам ладзяць і паўнавартасныя пэрформансы. На міжнародным фэстывалі "Навінкі '99" яны паказалі акцыю "Банк" на тэму хранічных нявыплатаў заробкаў рабочым: пад гукі шаманскае музыкі заляскалі макет ашчаднай касы спачатку пырскамі, а потым вядром чырвонае фарбы ("напэўна, грошай сёньня не дадуць" — "грошай не дадуць ніколі").

На тым самым фэстывалі Зьміцер Вішнёў паказаў пэрформанс "Культ асобы": паэта (і разам зь ім увесь андэргравнд? — ці, наадварот, сацыялістычны рэалізм?) асыстэнты закалацілі ў труну і вынеслі з Палацу мастацтваў у кірунку Дому літаратара. Падобныя акцыі ("Сабакі фюрэра", "Забі маманта ў сабе" etc.) Зьміцер ладзіў і ў іншых гарадах у межах вандроўнага фэстывалю Другога фронту мастацтва "Дзень муміфікатара" — у Берасьці, Гомелі, Магілёве, Стакгольме. "Цьвіком" фэстывалю авангарднае музыкі "Не!" у менскім кінатэатры "Ракета" стаўся пэрформанс Вішнёва пад назваю "Труп дыктатара". Цела ўзурпатара гэтым разам увасабляў апануты ў камбінэзон стос цаглінаў, якія Зьміцер раструшчыў і абліў чырвонымі ванітамі (перад выступам ён наўмысна выпіў два літры таматнага соку).

На фэстывалі беларускіх і латыскіх авангардыстаў "1948" у галерэі сучаснага мастацтва "*Noas*" у Рызе Вішнёў распавёў пра палітычны клімат у нашай краіне бел-чырвона-белым пэрформансам "Рэінкарнацыя дыктатара": выліў на сябе тры літры кетчупу і раскусіў кожнае з 60 яек, раскладзеных на бэтоннай падлозе ў выглядзе свастыкі.

Лідэр Асацыяцыі сучаснага мастацтва Артур Клінаў вядомы як майстар інсталяцыі, але можна лічыць яго і пэрформэрам, бо ён заўжды шукае непасрэднага кантакту з гледачамі і асабіста прысутнічае ў інтэр'еры сваіх экспанатаў. Напрыклад, на фэстывалі беларускага мастацтва ў Познані Артур наладзіў ня проста выставу, а "кірмаш беларускіх сувэніраў", у тым ліку партрэтаў Лукашэнкі ў рамах зь седакоў для ўнітазу. На фэстывалі экспэрымэнтальнага мастацтва ў пецярбурскім Манежы Клінаў, апрануты ў турэмную робу, прадаваў цукеркі, скручаныя зь вядомых паштовак, на якіх Лукашэнка ў вобразе расейскай купчыхі п'е гарбату з абаранкамі — рэпрадукцыямі вядомай карціны "За гарбатаю". Потым, на Дзень Незалежнасьці-96, бумбамлітаўцы разам з



ВІКТАР ЖЫБУЛЬ

**Пэрформанс Ю.Барысевіча «Здань Лукашэнкі на Радыё Свабода». 2000 г. Рыга.**

Клінавым зноў нарабілі "цукерак" і абменьвалі іх на грошы для палітвязьняў (асноўны збор пайшоў Славаміру Адамовічу, які тады сядзеў у турме). На той мітынг Бум-Бам-Літ пайшоў асобнай калёнаю пад уласным сьцягам зь бел-чырвона-белых літараў, які зрабіў мастак Уладзімер Акулаў.

Мабыць, не выпадкова, што сваёй найлепшай акцыяй Бум-Бам-Літ уважае "Art-прагноз'96", якую зладзіў разам з Алесем Пушкіным у Віцебску на Дзень Волі-96, калі ў Менску прайшла першая вулічная хваля пратэсту супраць гандлю сувэрэнітэтам краіны. Жывы клясык палітычнага мастацтва, Пушкін праславіўся яшчэ ў 1989 г. гепэнінгам "Дзень Беларускай Народнай Рэспублікі", за які атрымаў 2 гады ўмоўнага і 15 сутак рэальнага зьняволеньня. Згадаю тут толькі некаторыя ягоныя творы і акцыі апошніх гадоў.

Пры канцы 1995 г. ультраправыя суполкі наладзілі ў віцебскай галерэі Пушкіна агульнабеларускі зьезд нацыяналістаў. Міліцыя выкінула ўдзельнікаў зьезду на вуліцу, а калі тыя пашыхтаваліся й пайшлі ўскладаць кветкі да помніка Ўладзімеру Караткевічу — многіх зьбіла і затрымала. Алесь адседзеў за кратамі 15 сутак. Па выхадзе Пушкіна зь вязьніцы ўлады скасавалі дамову пра арэнду памяшканьня пад галерэю, а праз некалькі месяцаў прымусілі яго зьехаць і з будынку былой гімназіі, дзе ён тры гады кватараваў і здымаў майстэрню. (У 1999 г. падобная гісторыя адбылася ў Горадні: гарвыканкам праз суд аштрафаваў і пазбавіў майстэрні Алеся Сурава, аўтара зборніка карыкатураў на Лукашэнку.)

Паралельна з сваімі выставамі і пэрформансамі Пушкін браў удзел у рэстаўрацыі росьпісаў магілёўскае арцыкатэдры Ўнебаўзяцьця Найсьвяцейшае Панны Марыі. Тамсама напісаў у стылі барока новыя фрэскі, сярод якіх — "Глёрыя кардыналу Сьвёнтку". Кардынала Алесь уславіў неадэкватна: той загадаў завесіць рызьзём выявы бел-чырвона-белага сьцяга, Канстытуцыі 1994 г. і Зянона Пазьняка.

На радзіме, у мястэчку Бобр, Пушкін расьпісаў (на ўласныя сродкі і сьціплыя ахвяраваньні суседзяў) новазбудаваную царкву Сьв.Мікалая-Цудатворцы. Гэтыя фрэскі пакуль што мала хто бачыў: у сцэне Суднага дня мастак зьмясьціў у пекла ня толькі Лукашэнку, але і ягонага камісара — мітрапаліта Філярэта.

21 ліпеня 1999 г. скончыліся легітымныя паўнамоцтвы першага прэзыдэнта Беларусі. Хоць Лукашэнка і здолеў адкласьці развітаньне з пасадай яшчэ на два з паловай гады, Пушкін, натуральна, ня мог не адсьвяткаваць такой сьветлай даты. Дакладна апоўдні ён — у вышыванай народнай кашулі і белых пальчатках — падкаціў да прэзыдэнцкага палацу чырвоны возік сьвежага гною. На ім ляжаў партрэт Лукашэнкі, новыя грашовыя купюры, надрукаваныя за час ягонага кіраваньня (100.000, 500.000, 1.000.000 беларускіх рублёў), аднойленая сымболіка савецкай Беларусі, наручныя кайданкі і ланцугі. Усё гэта было вывалена перад уваходам у палац, пасьля чаго Пушкін урачыста прышпіліў віламі выяву Лукашэнкі да гною. Да возіка была прымацаваная шыльдачка з надпісам: "За пяцігадовую плённую працу!".

Ахоўнікі рэзыдэнцыі прэзыдэнта мелі, паводле інструкцыі, права застрэліць мастака: а раптам пад гноем схаваная бомба? Алесю пашчасьціла, што міліцыянты спачатку палічылі яго садоўнікам, які зьбіраецца садзіць кветкі. Па вялікім рахунку, яны не памыліліся. Алесь мяркуе, што вобраз гною мае ня толькі абразьлівы, але і аптымістычны сэнс: "Гэта тое, што ўгноіць парасткі дэмакратыі ў народзе, з гэтага вырасьце новая Беларусь". Навіна пра гепэнінг імгненна трапіла ў зводкі найбуйнейшых інфармацыйных агенцтваў, і толькі таму Алеся ў той самы вечар адпусьцілі з пастарунку пад падпіску аб нявыезьдзе. Суд адбыўся ў лістападзе. Мастаку "сьвяціла" да пяці гадоў вязьніцы за "злоснае хуліганства", але выкліканы ў якасьці эксперта ў гарадзкі суд вядомы пэрформэр Віктар Пятроў-Хруцкі здолеў давесьці, што Пушкін учыніў не палітычную, а мастацкую акцыю (хоць сам у гэтым далёка не пераканаы). Алесю прысудзілі два гады ўмоўна, а праз год амніставалі разам з усімі асуджанымі вэтэранамі аўганскай вайны.



**Акцыя Маладога Фронту «Дзень аховы псыхічнага здароўя». 7 красавіка 2001 г. Менск, Політэхнічная акадэмія.**

Пакуль адзіны пэрформанс, які Алесю ўдалося паказаць за мяжой, мае назву "Новы беларускі партызан". Месца дзеяньня — фэстываль беларускага мастацтва ў галерэі *Arsenal* (Познань, 2000). Пушкін у народным строі сядзіць перад мальбэртам, піша карціну, ягоныя голыя ступні адпачываюць у місе з вадой. Побач на вялікім экране дэманструецца відэазапіс разгону антылукашэнкаўскіх маніфэстацыяў, пырскае кроў з разьбітых галоваў. Тым часам да Алеся падкрадаецца асыстэнт і ўкладае ў місу з вадою кіпяцільнік. Пакуль мастаку стае цярплівасьці, ён працягвае працаваць, але мазкі робяцца ўсё больш нэрвовыя. Калі вада ўжо амаль ператвараецца ў булён, Пушкін вышчывае зь місы пачырванелыя ногі, узьнімаецца і хуценька пераапранаецца ў сваю старую вайсковую форму. Потым хапае з падлогі сякеру і з размаху перарубае дрот кіпяцільніка. На карціне, якую дапрацоўваў мастак, расьсякае аблокі сымбаль народнага паўстаньня — сякера ў аголеных мускулістых руках (маштаб абраны такі, што няўцямна, чые гэта рукі — самога Алеся альбо ўсяе працоўнае клясы, якую, нарэшце, дапяклі спробы эксцэнтрычнага прэзыдэнта пабудаваць "беларускую мадэль" эканомікі: наўрад ці народу маглі б настолькі ж надакучыць відэакліпы пра крывавыя танцы студэнтаў зь міліцыяй).

Працягам познаньскай акцыі Пушкіна стаўся пэрформанс "Інкарнацыя далёкага воклічу" на Крапівенскім полі пад Воршаю, дзе беларускае войска ў XVI ст. разьбіла ўтрая большую арду інтэрвэнтаў. Дзея адбывалася блізу апоўначы — у тую гадзіну, калі нашае вуха найлепш можа пачуць шэпт духаў з навакольнай цямрэчы. Алесь разгарнуў перад гледачамі чатыры муміі, спавітыя ў белую тканіну зноў (на такіх самых прасьціралах звычайна сьпім і мы). У першым кокане быў схаваны рыцар без галавы, у другім — анёл зь мячом, у трэцім — бязрукі князь (скульптуры Юрася Анушкі), а ў апошнім — маладая красуня ў чорнай сукенцы, такая ж нерухомая, як пасечаныя целы ваяроў. Нічога дзіўнага, што менавіта яе вырашыў ажывіць Пушкін. Мастак пасыпаў дзяўчыну (радзіму?) пяском і попелам, паліў сьвянцонаю вадой, набраў у рот дыму царкоўнага ладану і ўдзьмуў яго ў застылыя вусны. Дзяўчына расплюшчыла вочы, узьнялася, убачыла сваіх мёртвых абаронцаў і ў адчаі выгукнула ў цемру: "Мужчыны Беларусі, абудзіцеся!". Алесь моўчкі паказаў ёй рукою ўдалячынь на велізарнае вогнішча, што разгаралася ў гэтыя хвіліны. Гледачы ажно ўздрыгнулі, калі ўбачылі ў водбліcках далёкага полымя агромністы крыж і лунаючыя сьцягі. Каля агню пашыхтаваліся й рушылі з паходнямі над галавою насустрач пэрформансу нашчадкі старадаўніх ваяроў — сябры ваенізаванай суполкі "Край", якая праславілася перамогаю ў няроўнай сутычцы зь міліцыянтамі ў Горадні.

Пэрформанс "Фэнікс Беларусі", які Пушкін падрыхтаваў для выставы суполкі "Пагоня" на Дзень Волі—2000 у Палацы мастацтваў, мог бы стацца "цьвіком" імпрэзы, але вэтэраны "Пагоні" спалохаліся, што гэта будзе той цьвік, якім улады змацуюць крыж на магілу суполкі. Пэрформанс мусіў выглядаць наступным чынам. Уявіце сабе вялікі брызэнтавы навес (4 на 6 мэтраў), пад якім стаіць Пушкін, апрануты як на аўтапартрэце "Пленэр у Беларусі" (яго гэтымі днямі якраз можна пабачыць у галерэі Чырвонага касьцёлу). Асыстэнты ў форме расейскіх нацыстаў падпальваюць Алеся запальнічкамі, і ён сэкундаў 15 гарыць (каб унікнуць сур'ёзных апёкаў, мастак меркаваў скарыстаць адмысловую масьць). Потым на яго падае брызэнт, пафарбаваны зьверху ў колеры расейскага сьцяга. Нацысты зьбіваюць мастака міліцэйскімі дубцамі. Нарэшце з-пад расейскага сьцяга вылазіць белая здань. Гледачы ідуць за ёю па імпэрскім трыкалёры ў суседнюю залю і бачаць там аўтапартрэт палаючага мастака, а сам Алесь бясьследна зьнікае.

За некалькі месяцаў Пушкін атрымаў запрашэньне паказаць гэты пэрформанс на выставе "Новае мастацтва Беларусі" ў варшаўскім Уяздоўскім замку. Улады зноў не дазволілі Алесю выехаць за мяжу, і ён папрасіў мяне адвезьці ў Варшаву наўзамен ягонага цела пару палотнаў, у тым ліку аўтапартрэт (мяне запрасілі прачытаць на выставе лекцыю). Берасьцейскіх мытнікаў было цяжка пераканаць, што ў языках полымя на карціне стаіць і спакойна пазірае нам у вочы сам аўтар, а не Лукашэнка: некаторыя Кашчэі, як мы ведаем, таксама амаль несьмяротныя.

Калегі-мастакі называюць пэрформансы Пушкіна занадта эпатажнымі і дэкляратыўнымі: маўляў, пэрформанс мусіць быць супэрэлітарным мастацтвам, ягоная ідэя павінна заставацца няўцямнаю ня толькі для публікі, але і для самога аўтара. Алесь згодны, што ягоныя акцыі пратэсту эстэтычна не дасканалыя, але гэта для яго не галоўнае: ён паказвае людзям не абстрактныя праблемы абстрактнага сьвету, а цалкам рэальны боль сваёй душы — боль за радзіму, што тры стагодзьдзі курчыцца пад чужынскімі ботамі.

У Беларусі, як і ва ўсялякай краіне з аўтарытарным рэжымам, найгучнейшы рэзананс маюць палітызаваныя творы мастацтва. І гэтыя беларускія творы захаваюць актуальнасьць паўсюль, дзе людзі будуць змагацца за свабоду. Мастацкія моды прыходзяць і сыходзяць, а боль у сэрцы застаецца.

# Сярдзіты бацька

**На адным зь лецішчаў пад Менскам можна ўбачыць паравоз сталінскіх часоў. Замест чырвонай зоркі сьпераду — аднойлены герб БССР, побач партрэт Лукашэнкі, а на баку срэбны надпіс: "Сярдзіты бацька".**

Гэты паравоз належыць Генадзю Андрэеву. Машына тры дзясяткі год адпрацавала на дзіцячай чыгунцы. Потым апынулася ў адным з двароў ля Прывакзальнай плошчы, дзе хутка ператварылася ў прытулак для бамжоў.

У 1992 г. на паравоз зьвярнуў увагу Генадзь. Ён зьвярнуўся да домакіраўніцтва, тое ледзьве не са сьлязьмі прасіла забраць ламачча бясплатна. Але, нібы адчуваючы наступствы, Андрэеў вырашыў перасьцерагчыся і аформіў усё афіцыйна.

Гэта каштавала 20 000 рублёў – на тыя часы каля 200 даляраў ЗША. Пляны ў Генадзя былі грандыёзныя: адрэстаўраваць тэхніку, пабудаваць мініятурную чыгунку і забаўляць гасьцей. Аднак з прыходам новай улады зь бізнэсам давялося разьвітацца, і Генадзь пачаў думаць пра тое, каб прадаць паравоз.

Рарытэтам адразу ж зацікавіліся ў Баранавічах, у музэі рухомага саставу. Там абяцалі аформіць дакумэнты па кансультацыі з начальнікам беларускай чыгункі. Дык той раптам пачаў абурацца, чаму ён дагэтуль ня ведаў, што ў кагосьці на лецішчы псуецца дзяржаўная маёмасьць! І загадаў падначаленым галіновым структурам – пракуратуры і транспартнай міліцыі – пра ўсё даведацца.

Далей распачынаецца нешта містычнае. Генадзь кажа, што пад Новы год прысьніўся яму сон. Нібыта голас звыш папярэдзіў: "Калі твой паравоз ніхто не набудзе да прэзыдэнцкіх выбараў, Лукашэнка застанецца пры ўладзе. Купіць – яму прыйдзецца сысьці..."

З тае пары Генадзь упрыгожыў свой паравоз, як ён сам лічыць, містычнымі сымбалямі. Замест звыклай чырвонай зоркі – аднойлены герб БССР, побач месьціцца партрэт Лукашэнкі, а праз увесь бок – срэбны надпіс: "Сярдзіты бацька".

І мара зараз адна: збыць з рук небясьпечны рарытэт як мага хутчэй.

**Паводле Радыё Свабода**

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Вяртаньне ласасёў

Паветра ў Беларусі праз 100 гадоў будзе нашмат вільгатнейшае і чысьцейшае. Значна скароцяцца памеры радыяцыйных плямаў, і пра колішнюю катастрофу ў Чарнобылі мала хто й згадае. Ад яе застанецца адно колькі радкоў у даведніках. Перастане функцыянаваць цяжкая прамысловасьць — дзеля стратнасьці й неканкурэнцыйнасьці. Прамысловасьць будзе буяць у Азіі.

Зьменшыцца плошча палёў, дзякуючы большай прадукцыйнасьці новых відаў расьлінаў ды больш якаснай апрацоўцы глебы. Ураджайнасьць будзе блізу аднолькавая ва ўсёй Эўропе, у дзясятак разоў большая, чым цяпер у Беларусі. Вялізарныя абшары, якія яшчэ сёньня пасьпяваюць ды заліваюць хімічнымі ўгнаеньнямі, зноў стануць балатамі й лясамі. На іх зноў зацурчаць, забруяць ручаі, ад якіх набрыняюць рэкі. Рэкі, зь якімі сьцякуць нягоды бязглуздае хімізацыі, мэліярацыі ды радыяцыі. Ізноў у Полацку можна будзе злавіць асятра ці ласося. Яны вернуцца да нас з суседняе Скандынавіі...

Транспарту на рэках і адноўленых каналах паболее. Вада стане адной з найбольш папулярных і танных транспартных артэрыяў. На рэках паўстануць сотні гідраэлектрастанцыяў. Здабыча энэргіі наагул набудзе зусім іншы выгляд. Паўсюдна будуць матыляць паветра ветраныя электрагенэратары, навязьліва неадчэпны элемэнт краявіду. Вецер і вада, бясконцыя крыніцы энэргіі, стануць беларускім золатам.

У рухавікі будуць заліваць алей, рапсавы ці льняны. Дым ад іх будзе пахнуць блінцамі. Праз стагодзьдзе над Беларусяй будзе разьлягацца адно пах бліноў. Ані нафты, ані газу ў прыродзе практычна не застанецца. Праз гэта зьменіцца ўся геапалітыка. Людзі будуць набываць усё праз Інтэрнэт (хоць і гэтае слова, бадай, застанецца ў энцыкляпэдыях, а на зьмену яму прыйдуць дзясяткі новых). Захацеў сабе шырмачку з Шры-Ланкі ці лекі зь Нямеччыны, напісаў электронны ліст, пераказаў у гэткі ж спосаб грошы, а празь дзень прыняў пасылку.

Праз тое ж пакрысе й адпадзе моўнае пытаньне. Ня будзе вялікай матэрыяльнай выгодаю ведаць мовы. Дзеля стасункаў будуць існаваць дасканалыя кампутарныя (а ці гэтае слова яшчэ будзе ў даведніках? хто сёньня ведае, што такое "*кампозэр*"?) кішэнныя прылады. Сёньня яны — цацкі з прымітыўным лексыконам, кшталтам савецкіх падручнікаў па замежных мовах ("*Ці ёсьць у вас мяса?*", "*Дзе камітэт камуністычнае партыі?*" і г.д.). А заўтра, дзякуючы намаганьням літаратараў ды філёлягаў, можна будзе перакладаць гэткімі "цацкамі" высокую паэзію. Пэрсанальна. Хоць бы ты сядзеў на хутары пад Расонамі ці ў балатах пад Столінам.

З мовамі наагул атрымаецца забаўна. За рэальнай непатрэбаю высільвацца ў навучаньні дзясятка раўналежных "сусьветных" моваў узрасьце каштоўнасьць дыялектаў, мясцовых гаворак. Іхнае бытаваньне памножыцца, дзякуючы Інтэрнэту і поп-культуры, у геамэтрычнай прагрэсіі. Сама сабою "адродзіцца" палеская мова (а мо й 2—3). Яна будзе зафіксаваная ў інтэлектуальных прадуктах. Беларуская ж можа атрымаць свой працяг у некалькіх правапісных і фанэтычных варыянтах. Куды часьцей у Беларусі можна будзе пачуць гутарковую ўкраінскую, польскую ды літоўскую мовы. Пэўна, будзе існаваць расейскі "піджын", штосьці кшталтам "бел-русского", але ягонае існаваньне ў адрыве ад *цела* Расеі створыць свае формы...

Мовою справаводзтва й акадэмічнае навукі будзе беларуская мова ў форме *клясычнага беларускага правапісу*. Але сам тэрмін "*дзяржаўная мова*" стане анахранізмам. Моўныя, этнічныя дый дзяржаўныя межы стануць "акварэльнымі", размытымі й няпэўнымі. Сама інстытуцыя "дзяржавы" будзе мець іншыя функцыі. А менавіта: збор падаткаў на падтрыманьне экалягічнае бясьпекі, мэдычную й вэтэрынарную прафіляктыку, ахову й стварэньне культурных каштоўнасьцяў, ізаляцыю "сацыяльна небясьпечных элемэнтаў". Збольшага, бадай, усё. Войскі заменяць транснацыянальныя паліцыйныя сілы, якія будуць супрацьстаяць не па восі Захад—Усход, а пераважна — Поўнач-Поўдзень. Яны будуць фільтраваць эміграцыю, хвараві-тасьць, наркотыкі... Тое, што й цяпер. Але ў глябальным маштабе. Па ўсім паўночным пасе ад Лісабону да Сахаліна. Бо сёньня паасобку нацыянальныя "сілавыя структуры" не даюць рады ўсім вышэйназваным праблемам. Хто паасобку ўратуецца ад яшчура?

Аўтахтонныя культуры вернуцца да сваёй першаасновы — дапісьмовай традыцыі. Бабці ізноў будуць прыдумляць жудзікі, казкі й байкі, пераняўшы выхаваўчы працэс. Прырост прадукцыйнасьці працы вызваліць нарэшце (куды ўжо болей!?) жанчынаў. Дзеці, зьняможаныя даступнасьцю тэхнікі, будуць енчыць, дамагаючыся людзкое цеплыні.

Між людзей, што ў прыродзе... Усё самарэгулюецца. Колькі б ні глядзелі ў тэлевізар, ні чыталі раманаў, усё адно ў гэтую хвіліну, калі Вы чытаеце гэты тэкст, нараджаюцца забойцы й ахвяры, маньякі й гаіцелі, бажаволкі й прагматыкі... Нішто ня зьменіць *ня намі заведзенага гэтага парадку*, як той казаў.

Усё, створанае папярэднікамі, захаваецца. Выбітныя матэрыяльныя помнікі, што былі панішчылі чужынцы, паўстануць наноў. Як неабходны атрыбут выключнай адметнасьці краявіду... Праблемы этнічныя будуць зьведзеныя да сямейных, прыватных. Адпаведна, гэтулькі будзе беларусаў, колькі людзей сябе імі пачувае. Гэтулькі, колькі выхаваюць іх сваякі. Гэта ўжо пытаньні з галіны этыкі. Зрэшты, хіба ня гэтак ёсьць і сёньня?

**Сяргей Харэўскі**

## Энцыкляпэдыя беларускага замежжа

**Фота Анатоля Клешчука**




**Уладзімер Пілеса (ЗША)**



**Георг Харэвіч (Канада)**



**Скурат Яўхім (Канада)**

### Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Пачынаючы з 25 сакавіка штотыдня — мары і фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў новай рубрыцы "НН" — "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

# Наша Ніва 90 гадоў таму

**С.Мусьнікі, Віл. губ. Вялейскага павету.** ...Нядаўна тут было такое здарэньне. Адзін селянін дастаў з Амэрыкі шыф-карту (білет на праезд у Амэрыку) для сваёй дачкі, але яна не хацела ехаць, дык селянін надумаўся адасланць білет назад. Сам жа, ня ўмеючы напісаць адрасу, папрасіў пісара, а пісар сказаў, што ня мае часу, дык няхай ён папросіць памочніка. Памочнік напісаў адрас і панёс пісьмо заклеіваць у пакой пісара. Пісьмо дайшло, толькі з Амэрыкі напісалі, што пісьмо было бяз шыф-карты, каторая каштуе 80 зь лішкам рублёў, а заместа яе знайшлі пустую паперу. Дык і згадай, хто тут грэшны. Пошта амэрыканская ці пісар.

**Б.Поч-ка**

**С. Салтанаўшчына,** Менск. губ. Слуцкага пав. Хлопец зь вёскі Ракавічы гадоў 13, прыйшоў на рэзурэкцыю ў царкву, ды, змарыўшыся, забіўся недзе ў куток і заснуў так смачна, што і ня чуў, як выйшлі ўсе; а яго пакінулі аднаго ў царкве і зачынілі. Сядзеў бы ён там невядома як доўга, каб не адзін чалавек, каторы спазьніўся карбоку пасьвеніць. Прыехаў ён ужо, як людзі сьнедалі; падышоў да царквы, а там чутно, быццам нехта адзін чалавек сьпявае. Чалавек той, доўга ня думаўшы, пайшоў да бацюшкі і кажа, што ў царкве нехта ёсьць. Сьперша не хацелі верыць, але потым бацюшка паклікаў царкоўнага старасту, і пайшлі глядзець тыя праявы: калі яны адчынілі царкву — бачаць, там хлопец, і гэтак ужо сплакаўся, што ажно вочы ў яго падпухлі. Бедны хлопец!

**Лявон Лобік**

**"Наша Ніва", 7 красавіка 1911 г.**

Чарговы нумар "Нашай Нівы" выйдзе 21 красавіка. Пры гэтым нумары ўсім падпісчыкам рассылаецца дарма кніжка, як ужываць штучны навоз.

# ВОЎК ЗЬНЯВЕЧЫЎ МОЙ ЛЁС

*І ў памяці ўваскрасае ўжо не адна шчымлівая, як задаўненая рана, гісторыя чыёйсьці зьнявечанай маладосьці, паламанага чалавечага лёсу.*

**В.Адамчык (“НН”, “Воўк прагне крыві”)**



Вось адна зь іх.

Бацька мой, які скончыў царкоўна-прыходзкую школу, добра разьвязваў арытмэтычныя задачкі, што зь цяжкасьцю даваліся мне ў чацьвертай клясе, меў прыгожы каліграфічны почырк і яснае мысьленьне — уся вёска зьярталася да Язэпа, калі трэ было напісаць якую-кольвечы заяву ці скаргу. Ён рупіўся на сваім уласным шнуры, аж пакуль не загналі ў калгас. Адпакутаваўшы там колькі год за воз пацярухі, ён плюнуў і пайшоў “ірваць карчы” ў мясцовую смалакурню. А перад пачаткам вайны ўладкаваўся лесьніком, меў заробак у сто рублёў і нас, сямёх нашчадкаў. Жытка была ня райская, як і сёньня ў гэткіх сем’ях, калі гаспадар нават і пад сто тысяч зарабляе. За ўсе школьныя гады мае ногі аніводнага разу не пераступілі парогу школьнага буфэту, з булачкамі па 36 капеек, якімі амаль кожны перапынак ласаваліся плешчаніцкія жыдкі, мае аднаклясьнікі.

Запомніўся бацькаў запавет: атрымаць адукацыю.

Сяк-так уладкаванае жыцьцё нашай вялікай сям’і скрышыла ваенная віхура. Немцы з сталінскіх “сініх прарызінаў” пераабулі нас у лыкавыя лапці. Праз два гады партызаны забралі бацьку “ў падводы”, адкуль ён не вярнуўся. Маці засталася з малымі дзецьмі, маючы адзіную надзею на мяне, “старэйшага”. Але і ад апошняй надзеі ўсходнія “старэйшыя браты” неўзабаве вызвалілі няшчасную жанчыну, забраўшы сына ў войска. Ваўкі патрабавалі мяса!

Несупынная муштра і недастатковае харчаваньне за тры гады войска зламалі здароўе, дый вайна скончылася — усё гэта спрыяла вяртаньню дадому. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю ў вячэрняй школе, я, як і Вячаслаў Адамчык, памкнуўся ў сталіцу да вялікага мура з шыльдаю *“Белорусский государственный университет им. В.И.Ленина”*. Тады я абыякава мінуў дзьверы з надпісам *“Спецчасть”*, шукаючы прыёмнай камісіі. Праз колькі дзён пасьпяхова вытрымаў уступныя іспыты і вярнуўся дадому ўпэўнены, што паступіў. Пры канцы жніўня мне паведамілі, што я *“не зачислен в университет ввиду отсутствия вакантных мест”*. Разгублены і расчараваны, паехаў у сталіцу шукаць свайго, гарантаванага Сталінскай канстытуцыяй, права на адукацыю, ці, як у нас у вёсцы казалі, “шукаць праўду”. Найперш зьвярнуўся ў Прыёмную камісію, дзе мне пагадзіліся вярнуць дакумэнты і выдаць даведку аб выніках іспытаў. Я прабіўся да дырэктара, доўга даводзіў яму сваю слушнасьць. Ён зьняў слухаўку, а потым сказаў мне, што прыёмная камісія ўжо скончыла сваю працу і дапамагчы ён нічым ня можа. Тады я пайшоў у Міністэрства асьветы. Міністар сп.Мурашка прыняў, выслухаў, зноў жа патэлефанаваў некуды і даў адказ, зьместам падобны да дырэктарскага. Засталося адно: забраць дакумэнты.

За сталом у белым кужальным гарнітуры сядзеў старшыня прыёмнай камісіі — ваўкалак беларускай гісторыі Абэцэдарскі, побач — прывабная жанчына, сакратарка камісіі па прозьвішчы Жаўнерчык. Яна знайшла патрэбную асабовую справу, раскрыла яе, каб аддаць мне дакумэнты, аднак у гэты час ці то старшыня адцягнуў яе ўвагу, а мо яна, адмыслова пакінуўшы тэчку раскрытай, зьвярнулася да яго. Сярод падшытых дакумэнтаў я заўважыў аркуш паперы са школьнага сшытка, на якім алоўкам было напісана, што я маю аж чатырох дзядзькоў у Амэрыцы.

Імгненна згадаўся фатаздымак, які год дзесяць таму паказвала цётка Марыля, бацькава малодшая сястра: трое мужчынаў пры гальштуках, у чорных строях і бліскучых чаравіках. Ніколі б не падумаў, што менавіта праз гэтых людзей скруціцца мой лёс, тым больш, што ў левай кішэні маёй гімнасьцёркі ляжаў білет “прадстаўніка перадавога атраду моладзі гораду і вёскі”. З дакумэнтамі і даведкай я рушыў дахаты. Так скончылася першая спроба атрымаць адукацыю.

Загадчык райана, калека з вайны, быў адзіным, каму я шчыра распавёў пра свае ўнівэрсытэцкія прыгоды. Ён прыняў мяне на працу і параіў паступаць на завочнае аддзяленьне, дзе, як ён казаў, нікога не цікавіць аўтабіяграфія абітурыентаў. Крыху супакоіўшыся, я зноў адаслаў дакумэнты, потым пасьпяхова здаў іспыты, атрымаў навучальны плян з заданьнямі на зімовую сэсію і шчасьлівы вярнуўся на працу. Аднак вучоба была вельмі кароткай. Прыехаўшы на сэсію, прачытаў на дзьвярах гардэробу аб’яву: *“Студенту-заочнику Бурдыко П.И. срочно зайти в кабинет №5 “Спецчасть”*.

Там мне даходліва патлумачылі, што вучоба — вялікая каштоўнасьць, што ў навуку трэба ісьці з чыстым сумленьнем і крыштальнай біяграфіяй. Менавіта там, у кабінэце з шыльдай *“Спецчасть”* я атрымаў канчатковы вырак: адукацыя *“в свободной и мирной стране”* — не для мяне. Дадому вярнуўся зьняважаны і зьняверааны, неяк дапрацаваў да канца вучэбнага году, атрымаў разьлік і вырашыў зьехаць куды далей. Пусьціў пагалоску, што кіруюся ў Ленінград, а дакумэнты адаслаў у Пінскі электратэхнікум сувязі. Атрымаў адказ, што залічаны на аддзяленьне радыёфікацыі. Роўна празь месяц, пакуль мы зьбіралі высокі ўраджай бульбы на пінскіх калгасных палетках, дырэкцыя атрымала чарговы кампрамат на навасьпечанага навучэнца.

На той час я ўжо меў дваццаць пяць год, пяцігадовы працоўны стаж, быў сталым членам прафсаюзу і праформгам групы. Я быў актывістам — працаваў у прафкаме, удзельнічаў у самадзейнасьці, таму аб’ява аб адкрытым камсамольскім сходзе на тэму “Асабістая справа Бурдыкі П.І.” была сэнсацыйнай і сабрала поўную залю.

Старшыня сходу пачаў прамову з папроку ва ўтойваньні фактаў біяграфіі, а скончыў абвінавачаньнем у шпіёнскай дзейнасьці. Мне прапанавалі распавесьці аўтабіяграфію. Потым выступілі некалькі падрыхтаваных статыстаў, якія заклікалі выключыць мяне з камсамолу і выгнаць з тэхнікуму.

Сход быў бурлівы і неадназначны. Большасьць выступоўцаў спачувалі мне, і ў выніку галасаваньня я быў пакараны толькі суворай вымовай з занясеньнем ва ўліковую картку. А назаўтра дырэктарка тэхнікуму так крычала на сакратара камітэту камсамолу, што было чуваць аж у прыёмным пакоі: “Хто рыхтаваў сход, Вы ці Бурдыка, чаму не была прынятая пастанова аб выключэньні?!”

Праз колькі дзён зьявілася другая аб’ява аб дадатковым разглядзе маёй асабістай справы. Спартовая заля была поўная, найменшыя навучэнцы віселі на гімнастычнай сьценцы. Кожны выступоўца імкнуўся давесьці, што мне няма месца ў іхных шэрагах. Прыхільнікаў абараніць мяне гэтым разам не знайшлося, бо прэзыдыюм ачольвала сама дырэктарка, Сізова Соф’я Іванаўна.

Падводзячы вынікі, яна падкрэсьліла: *“Мы не можем допустить сомнительных людей к нервам страны!”*

Я быў канчаткова растаптаны, зьняважаны і зьнявечаны на ўсё жыцьцё. У мяне адабралі апошнюю надзею.

Добра памятаю той вечар. Калі я выйшаў з задушлівай залі, было ўжо цёмна. Я ня ведаў, куды ісьці і што рабіць. Нейкія, відаць, д’ябальскія сілы прывялі мяне на мост цераз Піну.

Чорныя мэталічныя канструкцыі, магутныя, як існы дзяржаўны лад, душылі мяне зьверху і з усіх бакоў, а ўнізе — цёмнай вірукочай масай, як магутная злая вужака, гатовая імгненна заглынуць чалавека, плыла ў акіян стыхія прыроды. Цяпер, праз гады, згадваючы мінулае, часам думаю — што зьберагло тады маё напалову не зрэалізаванае жыцьцё? Ці то інстынкт самазахаваньня, ці то Бог паслаў мне Анёла-ахоўніка, які празь дзесяцігодзьдзі сацыялістычных пакутаў дапамог дажыць да скону цемрашальскага ладу, бо гісторыя спраўджвае біблейскую ісьціну: “Дабро перамагае Зло”.

Напрыканцы прыдадуцца словы аднаго з герояў Лынькова, які, паміраючы, казаў: “Эх, позна, позна, і так рана, рана...”

**Павал Бурдыка, Полацак**

# Дачка, пляменьніца і жонка

**25 кастрычніка 1997 г. Радашкавічы сьвяткавалі сваё 550-годзьдзе. Сьвяткавалі шыкоўна і падзяржаўнаму — наехала шмат гасьцей і з сталіцы, і з Жыровічаў. А мэтраў за дзьвесьце ад пляцоўкі, дзе ладзілася сьвята, сьцішана ляжала ў сваёй старой хатцы хворая, са зламанай нагой, Вера Сьнітка — адна з найстарэйшых жыхарак мястэчка, дачка тага слыннага Сьніткі, які ў сваю пару клапаціўся пра асьвету і культуру Радашкавічаў, пляменьніца Аляксандра Ўласава, удава Браніслава Тарашкевіча. Спадарыня Вера — сама гісторыя. Яна нарадзілася ў лютым 1901 г., і перад яе вачыма прайшло ўсё стагодзьдзе, некалькі пакаленьняў людзей.**



З усіх радашкавіцкіх сьвятаў, якіх спн.Вера нямала бачыла за свой век, ёй найбольш запомніўся кірмаш 1913 г.: "Ладзілася якаясь выстава. Мяне і яшчэ адну маю прыяцельку апранулі ў беларускія нацыянальныя строі. Мы сноўдалі на той выставе і надзялялі кірмашоўцаў газэтай "Наша Ніва". Гэтае сьвята ладзілі бацька спн.Веры і яе дзядзька Саша, Аляксандар Уласаў. Дык хацелася б найперш пачуць пра іх.

"Мой тата, — распавядала спн.Вера, — нямала зрабіў для асьветы Радашкавічаў. Прыкладам, 28 верасьня 1907 г. "Наша Ніва" паведамляла: "У Радашкавічах адкрылася гарадзкое вучылішча, каторага ўжо даўно чакалі. Памешчык Сьнітка падараваў дом пад вучылішча". Праз тры гады ў Радашкавічах была заснаваная рамесная вучэльня, і зноў, паводле "Нашай Нівы", аб "яе адкрыцьці шмат стараўся п. С-ка" ("Наша Ніва", 10 чэрвеня 1910 г.)".

Пра грамадзкую і творчую дзейнасьць Аляксандра Ўласава мы ведаем багата. А які ён быў чалавек? Пра гэта магла расказаць толькі Вера Андрэеўна.

"Дзядзька Ўласаў дужа любіў гумар. Быў вельмі дасьціпны. З словамі гуляўся, гарэзіў. Неяк аднаго разу кухарка нагатавала варэнікаў. Частуе яна яго тымі варэнікамі. Зьеў місу, просіць: "Шчэ дайце". Далі яшчэ. Зьеў і кажа: "Але і нясмачныя вашы варэнікі!" А кухарка на гэта: "Зьлітуйцеся, пане! Бог з вамі! Ганіце, а самі ўсё зьелі". І абодва сьмяюцца. Адзін з сытасьці, другая — што дагадзіла пану".

У сямейным альбоме Веры Сьніткі я бачыў ідылічны здымак. ...Лета. Вясковы дворык. На ўслончыку пасьля працы праведнай, усьцешаны жыцьцём, сядзіць сам сэнатар — босы, дзябёлы. Побач жоначка Аляксандра, якая, пакуль не сасватаў яе з Уласавым беларускі сэнатар Назарэўскі, настаўнічала ў Баранавічах. Пры іх на траўцы двое хлопчыкаў. Адзін штосьці пілуе, другі малатком лупіць, цьвікуе. Які ж я быў зьдзіўлены, калі пачуў, што Ўласаў ня меў дзяцей, а гэтыя хлопчыкі — прыёмныя, жончыны. Але ён іх любіў, бавіў зь імі час і нават не хацеў, каб ведалі, што гэта не ягоныя дзеці. Звалі аднаго Алег, другога — Зьміцер. Да навукі яны, як ні крыўдна было Ўласаву, не гарнуліся. Больш да гаспадаркі былі схільныя. Калі хто ім чытаў, дык яны вушы затыкалі, каб ня чуць. Адзін з пасынкаў, Алег, пасьля стаў кіроўцам. А Зьміцер зусім нікім. У 1940 г. іх вывезьлі разам з маткай у Пермскую зямлю...

Дзядзьку Аляксандру выпадала апекавацца ня толькі пасынкамі. Пасьля сьмерці брата Юркі (Жоржа) Уласаў забраў ягоную жонку Антаніну з чатырма сіротамі, уладкаваў у сірочкі прытулак каля Варшавы. А лета яны бавілі ў Мігаўцы...

Ва Ўласава былі браты. Старэйшы, Аляксей, жыў у Сыбіры, выпісваў "Нашу Ніву"; Юрка (Жорж) меў ці то жандарскі, ці то паліцэйскі чын; Павал быў вайскоўцам; Мікалай, як і ягоны бацька, працаваў на пошце. Былі й сёстры — Лізавета і Марыся. Дзед Сьнітка юнаком быў закаханы ў Маню, хацеў браць замуж, але тая памерла ад сухотаў у васемнаццаць год. Тады ён наважыўся ўзяць малодшую — Лізавету.

Жыў тады ў Радашкавічах і лекар Ян Офэнбэрг, які ня толькі лекаваў местачкоўцаў, але далучаў іх да культуры: разам зь Ядвігіным Ш. ладзіў літаратурныя вечарыны. Вера ў яго на руках нарадзілася. Офэнбэрг, пакуль жыў у Радашкавічах, цікавіўся, як яна расьце, гадуецца. Потым з Варшавы пісаў да яе, бываў у іх у гасьцёх. "Аднойчы лекар танчыў з мамай, — згадвала спн.Вера, — а майму малому брату Севу гэта вельмі не падабалася. Дык ён хапаў яго за ногі і замінаў. Раўнаваў".

А вось Лявіцкіх — ні Ядвігіна Ш., ні ягонай дачкі Ванды — спн.Вера ня памятала, хоць, відаць, бачыла іх — мо на гэным самым радашкавіцкім кірмашы, дзе яшчэ дзяўчынкай красавалася ў нацыянальным строі...



Вера Тарашкевіч з сынам Славікам. Радашкавічы

Уласаў жыў у Мігаўцы наездамі. Кіравала фальваркам ахмістрыня Антоля. Курносая, бялявая, у дзядзькавых гадох, сьмешная такая. Дзядзька Аляксандар і зь ёю гарэзіў. Калі яна на стол падавала, ён прыпяваў:

— Антоля! Гоп-гоп! Зьбірай на стол!

Ва Ўласаве, паводле словаў спн.Веры, неяк гарманічна спалучаліся энэргія і лянота. Ён любіў, каб моладзь займалася гімнастыкай, дзеля чаго меў у Мігаўцы цэлы спартовы гарадок. Усіх вучыў катацца на ровары — умацоўваў кіроўніцу ручніком, садзіў "вучня" на седала, а сам тупаў побач.

У 1922 г. спн.Вера выйшла замуж за Браніслава Тарашкевіча. Распавядаючы пра мужа, яна ўвесь час называла яго Тарасам. Чаму? Ён жа Бронік, Браніслаў?

"А ведаеце, як ні дзіўна, я і не пацікавілася, калі жылі разам. Тарас і Тарас... А вось пачала думаць, пачалі людзі пытацца, а я і ня ведаю... Мусіць, гэта з студэнцкіх гадоў... Мой Бронік быў вельмі дапытлівы юнак, прагнуў парнаскіх вяршыняў. А тут і прозьвішча такое — Тарашкевіч. Яно ж мусіць ад імя Тарас — тараскевіч... Вось і пайшло... Тарас ды Тарас! Да яго так усе зьвярталіся. І Янка Купала, і Алаіза Пашкевіч-Цётка..."

Вось так, згадка за згадкай, мы і сьвяткавалі з спн.Верай 550-ю гадавіну Радашкавічаў... Ніводнага стогну, нараканьня. Толькі ўспаміны. Калі паўставала нейкае непаразуменьне, невыразнасьць, замінка — тут як тут была дачка Ірына. Яна ж ня раз чула мацерыны згадкі, яны для яе сталіся сваімі.

Веры Андрэеўны ўжо няма. Памерла 7 траўня 1998 г., пад салаўіны пошчак, тры гады не дажыўшы да свайго сёлетняга стагодзьдзя. Дык няхай гэтыя згадкі, занатаваныя мною, стануцца сьветлай істужкай у ейны юбілейны вянок.

**Уладзімер Содаль**

# Без ажыятажу

## *На "Менскую Вясну" мае завітаць Кшыштаф Пэндэрэцкі*

**У пятніцу ў Філярмоніі адбыўся першы канцэрт фэстывалю «Менская вясна 2001 — Эўрапейскія музычныя сустрэчы». Абышлося без "урачыстага адкрыцьця", без прамоўцаў і букетаў, без рэклямы, без начальства, без тэлебачаньня... І нават, здаецца, бяз радыё. Заля была запоўненая ледзь напалову.**

У канцэрце ўдзельнічаў заежджы піяніст, ляўрэат II прэміі Конкурсу імя Чайкоўскага (1990) Уладзімер Мішчук. Пецярбуржац Мішчук граў ціха і інтэлігентна, і гэта неверагодна падабалася публіцы. Хаця галоўныя сымпатыі былі тады на баку Ігара Каменца — таленавітага піяніста зь беларускімі каранямі. Аднак ці мог унук рабіна, выхаванец Хабараўскага інстытуту мастацтваў, грамадзянін ФРН разьлічваць на прыхільнасьць з боку маскоўска-савецкага журы? Каменца не пусьцілі ў фінальны тур, і слухачы актыўна падтрымлівалі Мішчука як "адзіную альтэрнатыву маскоўскай гегемоніі"...

Мяркуючы па тым, як ён выконваў сольную партыю ў соль-мажорным канцэрце Равэля — напэўна, Мішчук ня быў варты таго заўзяцьця. Сьвяточны і яркі твор гучаў млява, джазавыя рытмы кудысьці зьніклі, а ў фінале піяністу не хапала элементарнае тэхнічнае спраўнасьці. Праўда, філярманічны аркестар пад кіраўніцтвам Генадзя Праваторава таксама быў далёкі ад дасканаласьці. У дзень канцэрту хадзілі чуткі, што "Вясну Сьвятарную" Стравінскага ўвогуле выкінулі з праграмы, бо аркестар яе не адолеў. Але выкінуты быў іншы твор Стравінскага — Капрычча для фартэпіяна. "Вясна Сьвятарная" прагучала-ткі ў канцэрце, але так змушана, важка і грымотна, што вытрываць яе да канца было немагчыма.

Адзінай падзеяй сталася першае выкананьне новага твору Людмілы Шлег "Пасхальныя званы". Назоў дзіўнаваты, бо нават у савецкіх слоўніках беларускае мовы галоўнае хрысьціянскае сьвята завецца "Вялікаднем", а словам "пасха" называюць хутчэй велікоднае печыва. Твор кароткі, напісаны ў сучаснай мінімалісцкай манеры, а напрыканцы — аж занадта гучны. Праваслаўна-пабожны твор выконваўся побач з "карцінамі паганскай Русі" (менавіта гэткае азначэньне выставіў Стравінскі ў партытуры "Вясны Сьвятарнай").

Галоўныя падзеі фэсту не зьвязаныя ні зь беларускай музыкай, ні зь беларускімі выканаўцамі. Дзяржаўны сымфанічны аркестар будзе выступаць з амэрыканскім дырыжорам і выконваць амэрыканскую музыку. Дзяржаўны камэрны аркестар выступіць двойчы: 11 красавіка — пад кіраўніцтвам свайго колішняга галоўнага дырыжора Інга Эрнста Райля, 19 красавіка — зь нямецкімі салістамі й хорам, аднак жа з расейскім дырыжорам. Сымфанічны аркестар Тэлерадыёкампаніі выступіць з гішпанскімі салістамі й дырыжорам. Праграму "Гішпанская музыка XX ст." апрабавалі колькі дзён таму ў Полацку, падчас сусьветнай прэм'еры Варыяцыяў для сымфанічнага аркестру Хасэ Хімэнэса (у расейскамоўным прэс-рэлізе напісана — Й.Гименез). Чакалі нават прыезду кампазытара і дырыжора Кшыштафа Пэндэрэцкага. Але Пэндэрэцкі не прыехаў: магчыма, ён завітае на менскую прэм'еру гэтае п'есы 10 красавіка.

А калі й не прыедзе, дык будуць іншыя. Літоўскі тэнар Сяргей Ларын, што сьпявае ў найбуйнейшых тэатрах сьвету побач з Марыяй Гулегінай, Брынам Тэрфэлем, Віялетай Урманай. Ларын — сапраўдная знакамітасьць. Хаця "найлепшы тэнар свайго пакаленьня" — гэта хіба перабольшаньне. Праз тры дні пасьля Ларына ў Філярмоніі будзе выступаць ягоны настаўнік Віргіліюс Нарэйка — даўні ўлюбёнец менскае публікі, адзін з найлепшых тэнараў савецкае эпохі.

Яшчэ адна значная падзея фэсту — вэрдзіеўскі "Рэквіем", які, паводле традыцыі, будзе выконвацца 26 красавіка. Але гэтым разам ён будзе прысьвечаны не чарнобыльскім угодкам, а... стагодзьдзю з дня сьмерці Джузэпэ Вэрдзі, што адзначалася 27 студзеня. Затое 20 красавіка адбудзецца галя-канцэрт майстроў мастацтва, прысьвечаны 15-м угодкам Чарнобылю. Толькі што "галя-канцэрт" і "трагедыя" — словы несумяшчальныя, бо па ўсіх мовах сьвету "галя-канцэрт" — гэта бліскучая сьвяточная імпрэза, адмыслова ўрачыстая.

Вось такая ў нас мяркуецца вясна. А якая атрымаецца — жыцьцё пакажа. "Не лічы кветачак увесну, а палічы ягадкі ўвосень". Зрэшты, увосень у нас загучаць зусім іншыя песьні. І, можа, прыгажэйшыя.

**Юлія Андрэева**

### Дзе варта быць

## *Тры сустрэчы*

**19, 25 красавіка й 3 траўня ў тэатральнай залі Чырвонага касьцёлу адбудуцца ТРЫ СУСТРЭЧЫ зь песьнямі Алеся Камоцкага і Рыгора Барадуліна.**

Да ўвагі слухачоў:

1. Зорка спагады (рамансы і песьні ў аранжаваньні Ўладзімера Ткачэнкі).

2. Псальмы і баляды (біблейскія матывы).

3. Асяніна (пераклады філязофскай лірыкі Ганада Чарказяна).

4. Гойкнуў баравік (народныя сьпевы ў выкананьні Рыгора Барадуліна).

У сустрэчах возьмуць удзел Галіна Дзягілева, Ганад Чарказян, Уладзімер Ткачэнка.

# Беларусь вачыма тэрарыста


Станіслаў Ваўпшасаў

ЭСЭ

Сяргей Паўлоўскі

Аднойчы ў падвале бацькоўскага дому я перажыў сапраўдную трансфармацыю ў часе. Прыйшоўшы па бульбу, пачаў разглядаць стосы старых кніг, вынесеных сюды з хатняе бібліятэкі. Раптам вока ўпала на карэньчык з прозьвішчам «Ваўпшасаў». Гэтая асоба зацікавіла мяне яшчэ на шыльдзе адной менскай вуліцы. Што за прозьвішча такое? Каўказец, ці што? Аказаўся літоўцам. Толькі да прозьвішча Ваўпшас дадаўся расейскі канчатак -ов. (Унікальны на маёй памяці выпадак.) Што за чалавек? Дывэрсант, чэкіст, опер, асабіст, чый лёс увабраў заградатрады, НКВД, спэцпадразьдзяленьні... Прафэсія — ліквідацыя людзей. 50 гадоў біяграфіі Ваўпшасава прыпадаюць на Беларусь.

Наша краіна вачыма тэрарыста...

Я прысеў, разгарнуў таўставаты, амаль на 500 старонак том.

Паглыбляючыся пры сьвятле тускнай лямпы ў зьмест Ваўпшасавых мэмуараў, я зразумеў, што паглыбляюся ў самое мінулае стагодзьдзе. Міжволі я параўнаў сваё падарожжа з колішняй кнігай Адама Мальдзіса «Падарожжа ў XIX ст.». Пэўне ж, не на карысьць свайго. Там Агінскі, Чачот, Бакшанскі — узьлёты духу з зразумелай адвеку і давеку думкаю пра Бацькаўшчыну, яе свабоду і посьпех. Мальдзіс кліча чытача ў нябёсы нязьменных ідэалаў, у сьветлыя рамантычныя вышыні, у палёт. А мне з маім падарожжам у стагодзьдзе XX-е выпала сядзець у пыльным сутарэньні, сярод сьпісаных састарэлых кніг, чые ідэалы пераўтварыліся ў скукожаныя ідэалягемы. Тым не менш, я вырашыў прайсьці сваё падарожжа, каб ясьней разгледзець мінулае стагодзьдзе і яго ных герояў, яго ных заканадаўцаў і гаспадароў.

Узьлёты духу... Колькі ж жыцьцяў на сумленьні аднаго гэтага чалавека! А які матыў соцень, або і тысяч забойстваў? Усясьветная рэвалюцыя — далёкая песьня, усё больш далёкая, ужо амаль неразборлівая... Яе "інтэрнацыяналаўскі" матыў кануў некуды ў нябыт. А безь яго з чым будзе стаяць тая душа чалавечая перад вечнасьцю, чым растлумачыць свае ўчынкі? Гэй, хто ты?

Ужо першы абзац Ваўпшасавай кнігі мяне насьцярожыў і азадачыў:

«Канфліктаваць з жыцьцём я пачаў рана. Асаблівых падставаў для майго неўсьвядомленага пратэсту не было, бытавалася нібыта ў дабры, я не магу паскардзіцца на бязрадаснае або жабрацкае маленства. Тым ня менш нешта не задавальняла мяне ў звыклых парадках, а што менавіта, адразу цяжка было зразумець».

Пасьля высьветліцца, што гэта і ёсьць уся жыцьцёвая праграма, якая можа быць пададзеная ў бoскую канцылярыю, бо астатнія вытлумачэньні — пра інтарэсы рэвалюцыі і савецкае ўлады — там ня прымуць.

Калі ж адкінуць бальшавіцкую ідэалёгію, якую сёньня больш дакладна назваць ідэалістычнай, дык жыцьцёвыя прыгоды Ваўпшасава ўспрымаюцца як успаміны якога-небудзь Бін Ладэна, ня йначай.

Як нараджаецца тэрарыст? У нашым выпадку ён сфармаваўся з вайскоўца.

«На другі дзень раніцою Нехвядовіч атрымаў цывільную вопратку, літаратуру, выбухоўку і, рассоўваючы ўсю гэтую гаспадарку па рэчавых мяшках, сказаў:

— Вось хутка пераапранемся, і нічога ў нас чырвонаармейскага не застанецца. Мужыкі і мужыкі. Былі франтавікі — сталі партызаны, і што нас чакае наперадзе, нікому няведама. Але мы далі слова партыі і павінны яго сьвята выконваць, а хто паверне...

— Няма ў нас такіх, камандзір! — адгукнуўся Жулега. — Мы ня зьвернем з абранай дарогі да самага скончаньня ўсясьветнай рэвалюцыі, пакуль апошняга буржуя не прыкончым.

— Жулега ў нас такі, — умяшаўся Пеця Курзін. — Барацьбу прызнае толькі ва ўсясьветным маштабе. Польскі пан для яго ня пан, а дробная казурка. Як дасьць па фрызуры — так і вырасьце сьвежая магілка».

Ключавое слова тут — пераапранемся. За сваё жыцьцё Ваўпшасаў толькі паводле мэмуараў мяняў прозьвішча і дакумэнты разоў дзесяць. Гэта вельмі важная дэталь — закрыцца. З чужым імем ты бяздзейны і недасягальны, і беспакараны. Гэтым разам дзея адбываецца яшчэ за першай польскай акупацыяй.

У чым зьмест дзейнасьці? Увайсьці на тэрыторыю праціўніка, сабраць там групу, напасьці на інкасатара, каб было за што пяць-дзесят, пасьля арганізаваць напад на абоз ці склад з боепрыпасамі, а з гэтым ужо прыступаць да дывэрсійнай дзейнасьці. Што-небудзь зьнішчыць, каго-небудзь забіць, разграміць невялікі гарнізон. І пры гэтым сьцягваць да сябе ўсё новых прыхільнікаў. Дзеля чаго ўсё гэта? Дзеля ўсясьветнай рэвалюцыі — гучыць вымоўна і непераканаўча. Калі ж адкінуць ідэалістыку, дык маем справу з рамантыкай звычайнага бандытызму.

Зьвярніце ўвагу, як наіўна гучаць сёньня апраўданьні разбою на дарогах. Перайшоўшы мяжу, дывэрсанты сядзяць у лесе. Ад мясцовага агента даведваюцца, што па дарозе Бегам'е—Мсьціж будзе ехаць польскі вайсковы скарбнік. Нехта прапануе напасьці. Камуністычныя дывэрсанты ў сілу сваёй ідэалістыкі пачынаюць сумнявацца. Ваўпшасаў працягвае:

«— Экспрапрыяцыя? — спытаўся я. — Трэба падумаць. Мы ж камуністы, падпольшчыкі, і наўрад ці нам трэба даваць польскім уладам падставу называць нас разбойнікамі з бальшой дарогі.

Але Зыс стаяў на сваім, і мы пайшлі да нашага камандзіра, каб ён вырашыў нашу спрэчку. Нехвядовіч уважліва выслухаў нас і сказаў:

— Таварыш Зыс мае рацыю. Мы павінны жыць за кошт праціўніка, забіраючы ў яго зброю, харчы і іншыя матэрыяльныя каштоўнасьці, у тым ліку і грошы. Такая лёгіка партызанскай вайны.

Камандзір прыняў рашэньне: арганізаваць засаду, ахову і скарбніка разброіць, але не забіваць, а грошы падзяліць паміж найбольш беднымі сялянамі, і частку ўзяць сабе для патрэбаў падпольля».

Ну проста калыханка нейкая. Ідылія. Нібы і пісаў гэта ўсё Ваўпшасаў у тыя часы, калі ня меў яшчэ й дваццаці гадоў, а не ў сваім кабінэце зь відам на маскоўскі Ленінскі праспэкт.

...Уладкаваўшыся зручней у падвальным катуху, я прабягаў вачыма старонкі, запоўненыя вадзяністым расповедам. Сярод усіх гэтых робленых дыялёгаў раз-пораз натрапляў на назвы знаёмых мне вёсак, сустракаў і ведамых гістарычных пэрсанажаў. Але цікавіла мяне, мабыць, ня гэта.

Масьціты забойца нідзе не апісваў саміх экзэкуцыяў, быццам стараўся не пакідаць сьлядоў злачынства. Хіба што ў такіх знакавых выпадках, як расстрэл памешчыка Вішнеўскага з-пад Вялейкі на вачох яго ных батракоў. Далей імем гэтага памешчыка будуць палохаць іншых. Што да астатніх ліквідацыяў, дык яны папросту выпадаюць з тэксту. Гаворыцца, што правакатарам няма даравання, пасьля эпізод допыту і... усё. Ліквідацыя шпіёнаў — так ён сам гэта называе. Насамрэч тут лёгка вычытваецца праваобраз будучых заградатрадаў. Бальшавіцкія дывэрсанты сядзелі ў лясах за польскай мяжою, адсочвалі і зьнішчалі перабежнікаў з савецкага боку. Ішоў 1923 год. Вось як гэта выглядала:

«Але хто ня мог чакаць ад нас літасьці, дык гэта шпіёны і правакатары.

Дзьмітры Балашка паведаміў мне, што яго ная група затрымала на шашы каля вёскі Бамбалі мужчыну, які назваўся Жылінскім. У яго адабралі зброю.

— Прывядзіце яго сюды, — папрасіў я.

Допыт працягваўся некалькі дзён. Жылінскі і жартамі адздзельваўся, і свараўся з намі. Упарта цьвердзіў сваю легенду:

— Я служыў у Чырвонай арміі, быў на фронце і ваяваў супраць белапалякаў. Цяпер дапамагаю сумленным беларусам змагацца ў тыле ворага.

— Патрыёт, значыць? — спытаўся я ў яго, будучы вызвалены ўжо ад сьвядомасьці цярпеньня нахабнай хлусьнёю.

— А што, скажаце не? — адказаў ён, не зьміргнуўшы вокам.

— Ва Ўсходняй Беларусі бывалі?

— Бываў.

— Выпадкова не знаёмы з камісарам лясного наркамату ў горадзе Ігумене?

Такога пытаньня арыштаваны не чакаў. Бо гэтым камісарам да нядаўняга часу быў ён сам».

Канец эпізоду.

Самой экзэкуцыі аўтар не апісвае. Гэта як у эратычных фільмах — закаханыя кладуцца ў ложак і гасяць сьвятло. Далей мусіць запрацаваць уяўленьне гледача — наколькі яно разбэшчанае. Так і тут.

Ня магу не запыніць увагі эпізоды, дзе адным сказам пазначаюцца некалькі гадоў працы ў НКВД ў самы разгар выкрываньня шпіёнаў і ворагаў народу. У Ваўпшасава гэты сказ гучыць так: «Некалькі гадоў праслужыў у рэспубліцы, зь якой даўно і моцна зьвязаў свой лёс. Затым зноў Масква». А там — Беламорканал. Можна толькі дзівіцца, як адзін чалавек накрывае сваім лёсам усе гарачыя кропкі стагодзьдзя. Прычым па ўсім сьвеце. Вось ён апынаецца ў Барсэлёне. Сцэнка сустрэчы двух сябров настолькі беларуская савецкая, што не магу яе не прывесьці.

«Барсэлёну нездарма называюць пэрлінай Міжземнага мора. Горад проста цудоўны са сваімі велічнымі старажытнымі будынкамі, пышнымі пальмавымі бульварамі, шматкіляметровымі праспэктамі і ўзьбярэжнымі, раскошнымі віламі ў ваколіцах. Калі я прыехаў, неба над морам і гарадзкімі кварталамі зьзяла яркім блакітам, і ўсё навокал было па-паўднёваму яркае, жыцьцярадаснае, прыгожае.

У Барсэлёне я сустрэўся з многімі савецкімі добраахвотнікамі, што прыехалі сюды раней за мяне. Вельмі радаснай была сустрэча з Кірылам Пракопавічам Арлоўскім, усё такім жа маладым, задорным, агнявым.

— Сьвет малы, Станіславе! — прамовіў ён, калі мы абняліся. — Колькі разоў мы з табой разлучаліся, але дарожкі нашыя сыходзяцца зноў і зноў. Ці ж ня дзіва!

— Калі разабрацца, Кірыле, ня дзіва. У такое стагодзьдзе так і павінна адбывацца. Заканамернасьці часу супадаюць з заканамернасьцямі асобы.

— Вось-вось, Станіславе! Гэтак мы з табою ўсё жыцьцё пройдзем разам».

Дзея адбываецца ў часе гішпанскай грамадзянскай вайны. Ваўпшасаў прыехаў сюды дарадцам, які кансультаваў дывэрсыйныя атрады, як правільна разбураць камунікацыі, падкладаць міны на дарогах, стварадь паніку сярод насельніцтва.

Наступны эпізод зноў лякацічны, хоць і ўбірае некалькі гадоў:

«Па вяртаньні ў Маскву я стаў працаваць у адной з управаў НКВД. Жыў у сям'і, хадзіў па родных маскоўскіх вуліцах, любаваўся сталічным бляскам і дзелавой мітусьнёй вялізнага гораду». І ўсё. Далей адразу — фінская вайна. Задача Ваўпшасава — здымаць з дрэваў «зязюляў» — фінскіх снайпэраў.

«Любіў я сваіх падначаленых, па-бацькоўску клапаціўся пра іх. І яны не аднойчы ратавалі мяне ад вернай пагібелі, а паміж сабою за ўзрост, гумар і вечную заіндзевеласьць празвалі Дзедам Марозам»...

Часам правалы здараюцца нават з геаграфіяй. «Паўтара году я правёў у капіталістычнай Эўропе, выконваючы спэцыяльныя заданьні». Увесь пэрыяд нямецкай акупацыі Беларусі Ваўпшасаў на акупаванай тэрыторыі нашай краіны займаецца звыклай работай — дывэрсіі, стварэньне ліквідацыйных групаў і ўласна сама ліквідацыя. У прыватнасьці, ён бярэ ўдзел у арганізацыі забойстваў «актыўнага буржуазнага нацыяналіста» Фабіяна Акінчыца, «ворага беларускага народу» Вацлава Іваноўскага і «злобнага буржуазнага нацыяналіста» Казлоўскага.

«У выніку ўдараў, нанесеных па беларускіх нацыяналістах, гэтыя празрэнныя адшчапенцы, ня маючы апоры ў народзе, не змаглі аказаць эфэктыўнай дапамогі фашысцкім акупантам. Чэкісцкімі групамі праводзілася вялікая праца дзеля разлажэньня нацыяналістычных арганізацыяў і фармаваньняў, якія ствараліся гітлераўцамі зь ліку мясцовага насельніцтва». Дэталі не ўдакладняюцца.

Пасьля вайны бальшавіцкі бандыт мяняецца месцамі з тымі, хто перасьледаваў яго ў лясах. Адбываецца новае важнае пераапрананьне. Цяпер ён ад імя ўлады ловіць бандытаў у Беларусі і Літве.

«Зноў замкнулася кола лёсу: тут у 20-я гады я працаваў у падпольлі, змагаўся ў партызанскіх атрадах, а цяпер ролі памяняліся, я бараніў народную ўладу ад усялякага роду ўзброеных прайдзісьветаў, што хаваліся ў лясах».

Далей Ваўпшасаў пачынае распавядаць гісторыю, якая мае ўжо адкрыта казачны зьмест. Ён прыяжджае ў Жмудзь, дзе ў лесе сядзіць банда нейкага Клаюнаса. Наш герой вырашае ліквідаваць банду па-добраму. Ён піша Клаюнасу ліст, каб той перастаў змагацца, бо такое вакол цудоўнае жыцьцё, савецкае. Маўляў, за 24 гадзіны ўся банда на фурманках павінна выехаць зь лесу пад чырвонымі сьцягамі. Гадзіны бягуць хутка, чэкіст хвалюецца. Але хіба ж можа ён памыляцца? І вось сапраўды мноства фурманак зь лясньмі братамі пад чырвонымі сьцягамі прыяжджаюць у мястэчка. Малайцы, — кажа ім Ваўпшасаў. Чым хацелі б займацца ў мірным жыцьці? Тыя адказваюць, што ім за здраду можа дастацца ад іншых лясных братоў, таму яны хацелі б паехаць на Далёкі Ўсход.

Хто б мог падумаць, што пасьляваенныя масавыя дэпартацыі літоўцаў у ГУЛАГ адбываліся добраахвотна...

Верагодна, у сэнсе даставернасьці гэты эпізод адпавядае і ўсёй астатняй кнізе. І ящчэ — аніразу не ўзьнікае жаданьня параўнаць сябе з героем-апавядальнікам, маўляў, як бы зрабіў я. Наадварот, нязьменна ўяўляеш сябе на месцы ахвяраў безаглядная дывэрсанта. Ад гэтага ўвесь час кніжку хочацца адкласьці. Тым ня менш, я дачытваю да апошняга абзацу, які мае філязофскі характар:

«На дарогах жыцьця растуць не адныя посьпехі ды ўдачы. Вельмі важна пазьбегнуць паразы і дамагчыся перамогі. Але ня менш важна пры любых абставінах захоўваць пачуцё — і ва ўнутраным сваім сьвеце, і ў калектыве людзей, сярод якіх знаходзішся, — аптымальную маральную атмасфэру».

Дзесьці я нешта падобнае нядаўна чытаў. Ага, згадваю. Цяпер у Вільні судзяць нейкага Янушкевіча. За пяць гадоў ён учыніў трынаццаць забойстваў — пераважна інкасатараў і мянялаў валюты, учыніў мноства ўзброеных нападаў, рабункаў. Словам, чысты Ваўпшасаў нашых дзён. Гэта ён сказаў журналістам нешта пра «аптымальную маральную атмасфэру». Газэты не ўдакладняюць, ці кіраваўся Янушкевіч нейкімі ідэйнымі матывамі, напрыклад, ці ён



Станіслаў Ваўпшасаў (справа) і Язэп Нехвядовмч

камуніст. Але калі да ягонае дзейнасьці прыставіць нейкія матывацыі — скажам, дэстабілізаваць сытуацыю ў цяперашняй капіталістычнай Літве, дык мы атрымалі б яшчэ аднаго савецкага героя.

Але ж як у выпадку зь Янушкевічам, так і ў выпадку з Ваўпшасавым усе ўчыненыя імі забойствы, рабункі і дывэрсіі засталіся толькі забойствамі, рабункамі і дывэрсіямі, бо ўсё, дзеля чаго гэта нібыта рабілася, было асуджана, адкінута, забыта. Інтэрнэтаўскія шукалкі на імя Ваўпшасаў адгукаюцца сёньня толькі адрасамі ўстановаў, разьмешчаных на адной зь менскіх вуліц...

На вуліцы Ваўпшасава ў Менску ёсьць Маторны завод, дзьве аўтазапраўкі і першы ў Беларусі прытулак для бяздомных людзей.

Паўстагодзьдзя наш герой займаўся дывэрсійнай і тэрарыстычнай дзейнасьцю. У сваёй кнізе ён апісаў нашу краіну не як краязнаўца або падарожнік, не як навукоўца, а менавіта як бандыт.

У савецкай Літве, як тады было прынята, на радзіме героя Савецкага Саюзу ўсталявалі ягоны бюст. Сам Ваўпшас жыў у сваёй кватэры ў Маскве на Ленінскім праспэкце і пісаў на машынцы мэмуары. Сёньня ягоны бюст — у парку скульптуры таталітарнага пэрыяду, у глыбокай правінцыі, недалёка ад беларускай мяжы, сярод іншых пэрсанажаў таго часу — Ленінаў, Сталінаў, Дзяржынскіх...

Першую спробу даць пераацэнку дзейнасьці вэтэрана савецкага палітычнага тэрарызму зрабіў расейскі пісьменьнік Віктар Сувораў у сваёй кнізе «Ледакол. Хто пачаў другую сусьветную вайну?» Менавіта Ваўпшасаў спатрэбіўся Сувораву для доказваньня таго, што Сталін рыхтаваўся не да абарончай, а да нападніцкай вайны.

«Да 1926 году ваяваў у польскіх лясах. Афіцыйна вайна з Польшчай даўно завяршылася, а савецкія «партызанскія атрады», укамплектаваныя галаварэзамі з ЧК і ГПУ, забіваюць людзей у імя ўсясьветнай рэвалюцыі. Пасьля вяртаньня Ваўпшас — буйны начальнік на вялікіх будоўлях ГУЛАГу — тысячы галодных зэкаў капаюць сталінскія каналы, а кіруюць будаўніцтвам чэкісты. Ваўпшас — сярод кіраўнікоў. А пасьля наш герой кантраляваў ня зэкаў ГУЛАГу, а палітбюро гішпанскай кампартыі, накіроўваў працу рэспубліканскай контравыведкі і дывэрсійных фармаваньняў. А потым Беларусь і падрыхтоўка савецкіх партызанаў на выпадак уварваньня праціўніка на савецкую зямлю. Але вось падпісаны пакт — і партызаны больш непатрэбныя. Ваўпшас трапляе ў фармаваньні Асназ НКВД і займаецца высакароднай справай «ачысткі тэрыторыяў ад варожых элемэнтаў» у часе «вызваленчых паходаў». А вось 22 ліпеня 1941 году ён сустрэў не на мяжы, а за мяжой, на тэрыторыі «верагоднага праціўніка», маючы ў кішэні дыпляматычны пашпарт. Навошта гэтага карніка, тэрарыста, ГУЛАГаўскага дыплямата адправілі за мяжу? Можа, у інтарэсах умацаваньня бясьпекі краіны, «прадбачачы абарончую вайну»? Не, у абарончай вайне ён там зусім непатрэбны. Як толькі такая вайна пачалася, яго тэрмінова вярнулі ў Савецкі Саюз і адправілі ў Беларусь партызаніць, ствараць нядаўна зьнішчаны партызанскі рух, пачынаючы з нуля... Калі рыхтавалася абарончая вайна, дык навошта ўвесь гэты маскарад зь пераапрананьнем?»

...Забраўшыся па вушы ў XX ст., я злавіў сябе на адчуваньні, быццам надыхаўся бульбянога пылу. Болей сядзець у цёмным катусе было немагчыма. Адно зафіксаваў сабе ў памяці магію адпаведнасьці — гэтага пыльнага лёху, скрыняў зь леташняй бульбай, леташняга стагодзьдзя і гэтай кнігі, гэтай асобы, гэтага чалавечага лёсу, які і забыў бы хутчэй, дык жа неаднойчы нагадае пра яго ўсё яшчэ дзейная назва адной зь менскіх вуліц.

# Бацька Айчыны ці крымінальнік?

## *Новая аповесьць Кастуся Тарасава*

**Кастусь Тарасаў. Апошняе каханьне князя Міндоўга. Аповесьць. — Менск: Лекцыя, 2000. — 160 с. Наклад 400 ас.ISBN 985-6305-25-X**

Надрукаваная летась аповесьць "Апошняе каханьне князя Міндоўга" належыць аўтару славутай "Пагоні на Грунвальд". Ужо адно гэта зьяўляецца найлепшай рэклямай і павінна прыцягнуць увагу да новага твору. Тым больш, што цэнтральным сюжэтам новай аповесьці аўтар зрабіў раптоўнае і нечаканае каханьне састарэлага, першага і адзінага, караля літоўскага да роднай сястры памерлай жонкі. Такія справы заўсёды выклікаюць цікавасьць і плёткі, бо пошук вытокаў таго ці іншага гістарычнага здарэньня, высьвятленьне, што крыецца за ўчынкамі ўладароў, дазваляюць нашчадкам выразна ўявіць, *хто* стаяў на чале старажытнай дзяржавы. Несумненная заслуга К.Тарасава ў тым, што ён, мабыць, упершыню паспрабаваў асэнсаваць уплыў канкрэтнага гістарычнага здарэньня на лёсы першых уладароў ВКЛ і лёсы суседніх дзяржаваў у больш-менш вялікім творы. Пісьменьнік пазбаўлены неабходнасьці скрупулёзна сьледаваць гістарычным крыніцам і мае магчымасьць, скарыстаўшы літаратурныя прыёмы, паглыбіцца ў сівую даўніну, узнавіць ход падзеяў і распавесьці пра тыя падрабязнасьці, аб якіх маўчаць скупыя хронікі. Здаецца, у гэтай гісторыі, што адбылася ў другой палове XIII ст., ёсьць усё, неабходнае для захапляльнага раману, але за вонкавай прывабнасьцю хаваюцца складаныя праблемы.




Па-першае, далёка ня ўсе ўчынкі галоўнага героя аповесьці — старога Міндоўга — можна ацэньваць станоўча. Гэта ці не галоўная праблема, зь якой давялося сутыкнуцца К.Тарасаву. Стваральнік Вялікага Княства ня толькі ў сваіх дзяржаўных памкненьнях, але і ў асабістым жыцьці быў супярэчлівай асобай, кіраваў жорстка, і калі жыцьцё ставіла перад выбарам "забіць ці не", найчасьцей схіляўся да першага. Сумненьні, згрызоты сумленьня і мяккасьць характару не былі ўласьцівыя Міндоўгу. Хітрасьць, разьлік, вайсковая мужнасьць, бясспрэчны аўтарытэт, крайняя жорсткасьць, карысьлівасьць, дбаньне пра інтарэсы ўласнай дынастыі, пра яе замацаваньне на вялікакняскім пасадзе ў Наваградку, патураньне ўласным жывёльным інстынктам — такім паўстае Міндоўг у аповесьці К.Тарасава.

Напэўна, непрывабнасьць вобразу Міндоўга, ягоная крыважэрнасьць і прымусілі М.Ермаловіча адмовіць яму ў праве быць стваральнікам ВКЛ. Па сваіх маральных якасьцях ну ніяк ён не падыходзіў на ролю Бацькі Айчыны. Гэтае месца, згодна зь Ермаловічам, належыць старэйшаму сыну Міндоўга, Войшалку. А ў аповесьці Тарасава апошні паўстае не як хітры дыплямат і прадбачлівы палітык, а як небарака-мніх, што выракся трону і людзкога жыцьця, няздольны кіраваць вялікай дзяржавай. Не пытаньні вялікай палітыкі, не барацьба за права стаць на чале Наваградзкай дзяржавы, ня пошук хаўрусьнікаў, не распрацоўка далекасяжных дыпляматычных плянаў хвалююць Войшалка, а толькі аддане служэньне Богу і боязь зганьбіць новую веру паганскімі звычаямі. На самой справе гэты каралевіч жыў толькі адной марай — ён рыхтаваўся да захопу ўлады. За моцным манастырскім плотам, удалечыні ад непажаданых вачэй і вушэй ён пісаў лісты да новых хаўрусьнікаў. Ні на хвілінку ён не жадае пагадзіцца з думкай, што ворагі Міндоўга настолькі ўзмацніліся, што не дапусьцяць яго да бацькоўскага трону. І пры пошуках хаўрусьнікаў позірк Войшалка скіраваны найперш у бок Пінскага княства. Такім паўстае Войшалк са старонак аповесьці.

Адсутнасьць станоўчай фігуры ў аповесьці, альтэрнатыўнай Міндоўгу, — гэта, на мой погляд, памылка аўтара. Бо вобраз галоўнага змоўшчыка — князя Трайната, які заняў вялікакняскі трон у Наваградку адразу пасьля забойства Міндоўга, амаль што не распрацаваны ў беларускай гістарыяграфіі. Наагул ён не ўспрымаецца як беларускі ці хаця б наймаglobalны беларускі князь.

**Генадзь Туровіч**

**рыхтуецца да друку**



**ФРАНКАФОБІЯ**

**спэцыяльны нумар "НН", прысьвечаны беларуска-францускім дачыненьням**

**Ігар Лялькоў** "Краіна нашых няспраўджаных надзеяў. Новыя дакумэнты па гісторыі стасункаў БНР з Францыяй у 1919–1920 гг."

**Андрэй Катлярчук** "Прыказкі беларусаў аб французах з тлумачэньнем гістарычнага паходжаньня й сэнсу" **ды іншыя артыкулы**

ARCHE

СКАРЫНА

**Выйшаў новы нумар аналітычна-крытычнага агляду часопісу "ARCHE". Сёлета ў "Скарыну" — 104 старонкі, а ня 80, як летась.**

**У нумары:**

- **Юрась Лаўрык рэцэнзуе кнігу Алены Яскевіч "Абраньне вечнасьці". Мінулая рэцэнзія сп.Лаўрыка (на кнігу "Беларускія рэлігійныя дзеячы" Ю.Гарбінскага) выклікала палеміку ў друку. Гэтая — яшчэ вастрэйшая.**
- **Валерка Булгакаў аналізуе ідэалёгію лукашызму. Грунт для аналізу — рупар рэжыму, часопіс "Беларуская Думка".**
- **Новае эсэ Вінцэся Мудрова "Пошукі радзімы".**
- **З гэтага нумару "Скарына" пачынае штонумар друкаваць вершы. У нумары — "Юрлівыя санэты" Юрася Пацюпы.**
- **Аналітыка Зьбігнева Бжазіньскага аб пэрспэктывах эўрапейска-амэрыканскіх стасункаў.**
- **Эсэ Карла Шлёгеля пра Бэрлін, Дэна Якабсана пра Літву і Юр'я Андруховіча пра Галіччыну.**

Пытайцеся ў кнігарнях "Белкнігі", кіёсках "Белсаюздруку", у распаўсюднікаў на сядзібах БНФ, ТБМ, на кірмашы ў ДК Трактарнага заводу і ў "казе" "Менск".

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Каляндар памятных дат на 2001 г.** / Склад. Я.Саламевіч, Маст. Л.Ледзянёва. — Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 2001. — 91 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-11-0192-3

*Толькі ў сакавіку «Беларуская энцыкляпэдыя» выдала каляндар памятных датаў. Каштуе 1 т. р.*

Я.Крук. **Сымболіка беларускае народнае культуры**. — 2-е выд., стэрэатып. — Менск: Ураджай, 2001. — 350 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-04-0334-9

*Першы наклад кнігі хутка прадаўся праз малую цану — 750 р., другое выданьне каштуе ажно 4,5 т.р.*

В.Гаўф, Э.Т.А.Гофман, Ш.Пэро. **Прыгажуня ў сонным лесе**: Казкі / Для мал. шк. веку; Пераклады ў бел. мову; Укл. У.Карызна, Маст. В.Сідарава. — Менск: Юнацтва, 2001. — 254 с.: іл. — (Бібліятэка замежнае дзіцячае літаратуры). — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0013-1

*Усяго за 750 р. — творы найвыдатнейшых эўрапейскіх казачнікаў у перакладах Кандрата Крапівы, Якуба Коласа ды іншых беларускіх пісьменьнікаў.*

У.Мархель. **Водгульле** / Пераклады на бел. мову. — Менск: Тэхналёгія, 2000. — 142 с. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-458-009-1

*Кніга складаецца зь дзьвюх частак — «Карона» й «Літва». У ёй сабраныя апошнія пераклады з польскамоўных паэтаў Беларусі й польскіх песьняроў п.п.XIX ст. Каштуе 1,7 т.р.*

Г.Бураўкін. **Чытаю тайнапіс вачэй**: Вершы пра каханьне / Для стар. шк. веку; Маст. У.Савіч. — Менск: Юнацтва, 2001. — 158 с.: іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-05-0301-7

*У кнігу ўвайшлі 110 вершаў Бураўкіна пра каханьне, напісаных у розныя гады. Шмат якія былі пакладзеныя на музыку й сталіся папулярнымі песьнямі. Каштуе 1,2 т.р.*

Г.Тумаш. **Лісіца з Расохі**: Вершаваная казка. — Менск: Юнацтва, 2001. — 50 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0439-0

*Гэткая добрая казка! Кніжка каштуе 950 р.*

Л.Казлоў. **Беларусь на сямі рубяжох (XI — пач. XX ст.)**. — Менск: Арты-фэкс,




2000. — 60 с.: іл. — Наклад 300 ас. ISBN 985-6119-44-8

*Трэцяе выданьне (1-е — 1993 г. (разам з А.Цітовым), 2-е — 1998 г.) кнігі пра гісторыю фармаваньня дзяржаўных межаў Беларусі. У менскай кнігарні «Сьветач» каштуе 1,5 т.р.*

**Віктар Мухін**

## ліст у рэдакцыю

Заўсёды заглядаю ў рубрыку "НН" "Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю" і, у залежнасьці ад магчымасьцяў кішэні, стараюся набыць тое ці іншае выданьне. Вось набыў і "Элегіі забытых дарог". Як на мой погляд абывателя, зь якога яшчэ не напоўніцу выхаўся дух савецкай школы, дык файная кніжка на прыстойнай беларускай мове.

Аднаго толькі не магу ўцяміць — як гэта М.Багдановіч здолеў адгукнуцца вершам на сьмерць Каруся Каганца?

**В.Васілёнак, Менск**

## дзесяць мяхоў беларускай гісторыі

# Лімэрыкі





* * *

Усяслаў, званы ўсім ваўкалака,
не любіў дужа моцна сабакаў,
бо калісьці яны
абадралі штаны
і ледзь-ледзь не ўчапіліся ў с... (хвост)!

* * *

У Навагрудку князю Міндоўгу
даў крыжак нечаканую поўху.
Князь крычаў і злаваўся,
скавытаў і пляваўся,
а пасьля крыжакам помсьціў доўга.

* * *

Гедымін, ап'янелы ў дыміну,
сьніў ваўкоў, чарцянятаў і сьвіньняў.
Гучна раілі чэрці
многа сьпірту ня жэрці...
Так узьнікла ня Рыга, а Вільня.

* * *

Слаўны лекар Францішак Скарына
прусака біў таўшчэзнай тамінай.
Ён гарлаў: "Чысьціня —
гэта вам не фігня!
Веды — вось яна, зброя ліцьвіна!"

* * *

Братаны-Радзівілы Барбары
адшукалі выгодную пару.
Толькі гэтыя зухі
не ўлічылі свякрухі,
чый укус быў страшней за курарэ.

* * *

Быў француз. Зваўся Генрык Валеза,
да мужчынаў ахвочы гарэза,
а сказалі жаніцца —
ледзь ня кінуўся біцца
ды ў Парыж паскакаў з "Марсэльезай".



* * *

Князь Батура ў лясной Трансыльваніі
падхапіў небясьпечную манію:
графа Дракулы вочы
часта бачыў уночы.
Вось Батура і ўцёк з Трансыльваніі.

* * *

Велькі канцлер літоўскі Сапега
нападпітку хваліўся калегам:
"Піва п'ю за валюту,
бо накладу Статуту
ані Гінэс ня сьніў, ні Карнэгі".

* * *

Радзівіл, званы Пане Каханку,
спакусіў у балоце русалку.
Ён усе дыямэнты
страціў на алімэнтах,
як аднераставала русалка.

**Жбан Няўмера,
малюнкі Ліі Кійко**









## прыватныя абвесткі



### беларускі садок і школка

**Бацькі, хто жадае аддаць сваё дзіця** ў беларускі садок або ў беларускую школку, тэлефануйце: 213-43-52, 284-85-11 (ад 10.00 да 19.00); садок: 286-11-15, 251-95-90 (пасьля 19.00); школка: 237-44-58, 228-68-91 (пасьля 20.00)

**Дзетак да 3 год** беларускі садок запрашае ў ясельную групу. Т.: 250-85-96 (удзень), 251-95-90 (увечары)

### бугальтарка

**Беларуская бугальтарка** шукае працу. Т.: 251-95-90, 250-85-96 (Марыя)

### вазочак

**Аддам беларускай сям'і** вазочак дзіцячы ў добрым стане. Т.: 250-85-96 (удзень)

### вітаньні

**Прывітаньне амонаўцам**, што схапілі мяне 25 сакавіка! Шчэ сустрэнемся, зямля круглая. Эліна

**Удзячна ўсім**, хто мяне падтрымаў і дапамог. Эліна

**Дзякуем бацькам Янкі Санько** за тое, што яны падаравалі нам такую дзяўчыну. Тыя ж

**Янaчка!** Самая любімая наша сяброўка — БУДЗЬ!

**Віншую беларускую правінцыю** з часопісам "Правінцыя". Алесь Аркуш

**Міхасю Л.**, прывітаньне! Віншую зь вясновай радасьцю! Янка

**Aksana!** Winšuju z nadychodam wiasny, sa świetlym światam Wialikadnia i z Dniom narodzinaú. Aleś

**Піяністцы з Магілёву** тузін добрых пачуцьцяў! Удзячны бард Мельнікаў

**Віншую Пікіна Міхася (Мішона)** зь першым месцам па хіміі! Віт

**Шчырая падзяка сябру Паўлу** за віншаваньне. Жадаю й Вам дачакаць плёну Вашае дзейнасьці. Тацяна

**Vinšuju Tacianku K. z Barysava** ź jaje Dniom narodzinaú. Ad maładečanskaha biełaruskaha nacyjanalista. Ihar

**Максік**, ты сваёй роднай Беларусі вельмі патрэбны! Мы цябе вельмі любім і чакаем вяртаньня!

### зямля

**Гуляюць голыя** 8 сотак у Адцэдзе. Ехаць на Стоўпцы з гадзіну. Т.: (Менск) 253-80-81

### ідэі

**Калі Вы ўзьнялі** Сьцяг сьвяты Ісусаў, гатовы будзьце ўзьняць і Крыж Ягоны. Н.Б.

**Міколку.** Выпадкаў не існуе, непаразумела, але ж хіба немагчыма? Спадзяюся. Тая, што ведае

**Лёшка-Сонейка!** Ты ж можаш быць такім ласкавым! Чаму ж твае промні такія пякучыя?! Я люблю цябе, Сонейка! Тая, што хоча цяпер

**Налепка з голубам** ці курыцай да Дня Волі для пэўных грамадзян — знак міру з маскалямі. Натальля

**У "НН"** №13 першы радок майго вершу трэба чытаць так: "На ноч зьбіраўся дождж". М.Калясянец

**Вернем нашае**: бел-чырвона-белы сьцяг і "Пагоню". Жыве Беларусь. Краёўцы

**Беларусь — твая Радзіма**. Беларусь — твая сям'я. Беларусь — твая Матуля. Тады дзе ж любоў твая? Вольны Край. Краёўцы

**Спадару Сіўчык**, чаму "курыца", а не "Пагоня" і бел-чырвона-белы штандар? Алена

**Навошта** паліць расейскі сьцяг? У здрадзе некаторых "беларусаў" расейцы не вінаватыя. Кам.

**Здрайства** — гэта найвялікшая подласьць і гідасьць, што нішчыць край і народы. О.Дж.

**Сп. Куляга**, ліцэй зачыняць! (Сьвята надыходзіць!) Больш усьміхайцеся! Вучні В.В.П. ды ліцэй

### інтэрнэт

**"Край"** у Internet. Запрашаем наведаць старонку беларускіх нацыяналістаў. www.spa-kraj.org

**"Сьвятая Дубровая — Крыўскі Пяроспар"** — адзіны традыцыяналістычны ды прапагандскі рэсурс беларускага Сеціва. Запрашаем усіх цікаўных. http://www.dubrova.cjb.net

### кантакты

**Лунінецкі патрыёце!** Ты дзе?! Адгукніся! Барані разам з намі Край! Ліцэісты Лунінца. Чапаева, 54, п.213

**Кожны аўторак** у 18.00 каля помніка Янку Купалу збор прыхільнікаў БПС. П. 211-85-85, аб. 8246

**Калі ты сапраўдны** нацыяналіст, уступай у шэрагі БПС. Пэйдж. 289-12-12, аб.4430

**Новыя правыя**, далучайцеся да БПС. Пэйдж. 289-12-12, аб.4430

**Старыя прыхільнікі БПС**, адгукніцеся! С.Высоцкага больш няма. Пэйдж. 289-12-12, аб.4430

**Ідэя!** Нацыя! Дзяржава! БПС. Пэйдж. 289-12-12, аб.4430. E-mail: bps@tut.by

### летнік

**Усіх сяброў** запрашаем у летнік "Па старонках роднай гісторыі". Лета. Раскопкі. Сьвяты. Т.: (017) 215-84-09

### музыка, кнігі

**"Правінцыя"**. Замова: Аляксандар Козік, а/с 14, Полацак-13, 211413. Кошт 3 т.р.

**"Голас Краю"** — газэта беларускіх нацыяналістаў. Замаўляйце і чытайце №11 і №12. 220037, Менск, а/с 49 ці праз пэйджэр 249-00-00, аб. 7315. E-mail: spa_kraj@hotmail.com

**Увага! Выстава!** У ТБМ ім. Ф.Скарыны на вул Румянцава, 13 з 9 па 13 красавіка ладзіцца дабрачынная выстава "Мінорныя сугуччы Бацькаўшчыны". Мастак Віктар Варанкевіч прысьвячае сваю выставу гадавіне дзейнасьці ТАПТТ "Наша Перамога"

**Набуду кнігі сэрыі** "Бібліятэка замежнай прозы". Алесь. khodar@tut.by

**Набуду беларускамоўную** літаратуру па эканоміцы, мэнэджмэнце, бугуліку. Алесь. khodar@tut.by

**Набуду беларускамоўнае выданьне** "Маленькага прынца" ў любым выглядзе. Т.: 213-32-32

### пацучаты

**Пацучат** прадаю па 100 руб. Т.: 260-49-19

### праца

**Нямецкая мова:** пераклады, кантр. работы. Танна, хутка, якасна. Т.: 269-21-03

**Дапамагу пачаць** сваю працу ў хаце. Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

### узмацняльнік

**Пэрспэктыўны коханаўскі гурт** "Блякада" прыме ў падарунак ці набудзе за сымбалічную плату ўзмацняльнік на 90В б/в. Пэйджэр 207-00-00 аб. 143-67

### winamp

**Пясок у гадзіньнік**, урэшце палец — у нос! Белмоўны Winamp — болей не парадокс! www.winamp.com/plugins/. Архімёд

**Мізэрнае намаганьне** — і Вінамп белмоўны з валаскоў да 12-пальцавай кішкі. Зьлівай Belarusian Language Pack www.winamp.com/plugins. Падкажы суседзям. Архімёд

## КОШТЫ
### на платныя прыватныя абвесткі:



— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 113 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 143 руб.
— афармленая абвестка — 71 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 94 руб. за 1 кв.см.

За абвесткі пра сямейныя падзеі — зьніжка. Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763.

**На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**

## паштовая скрынка



**Пятру Я.** Аж злосьць бярэ ад Вашай "Беларусі праз 100 гадоў". Вы напісалі не фантазію, не прагноз і ня ўтопію. "Шклоў — сталіца Беларусі"? "Прэзыдэнт клянаваўся"? "Талібы будуць бамбіць маўзалей"? "Усе будуць змушаны гуляць у хакей"? Гэта апантанасьць сёньняшнім днём. 100 гадоў таму пра гэткае не было й почуту, дык з чаго гэткаму застацца праз 100 гадоў? Большая частка Вашага допісу — шумавіньне сучаснасьці, пра якое і за 50 гадоў ніхто не згадае, дзе там за 100. Гэта небясьпечная для псыхікі абсэсія Лукашэнкам.

**Андрэю М. з Горадні.** А ну ж "нейкія зьмены ў грамадзтве" не распачнуцца ўжо "ў бліжэйшыя пяць гадоў"? Што, хіба й жыць ня будзем? Беларусь праз 100 гадоў — не Беларусь праз 20 гадоў. У тым то і штука, каб уявіць сабе такую Беларусь, дзе ўжо нас ня будзе. І "бліжэйшыя год-два будуць вырашальнымі" для тае "Беларусі праз 100 гадоў" ня больш, чым бліжэйшыя гадоў сем-восем. Такі закон часу. Як будзем за гадоў 10—15 змагацца, няцяжка сабе ўявіць, бо змагацца будуць усё тыя самыя. А во праз 100 — калі ўсё зьменіцца не да спазнаньня?

**Сяргею С. з Горадні, Ільлю К. зь Менску.** Дужа цікава. Адно што ўмовы рубрыкі вымагаюць развагаў не пра "Беларусь цягам 100 гадоў", а пра "Беларусь па 100 гадох" — не аб працэсе, а аб выніку. Вярнецеся, перапішэце. А зацемкі аб працэсе перарабеце ў асобныя нарысы — знойдзецца нагода надрукаваць.

**Аднаму з назіральнікаў з Ашмяны.** Ня думаю, каб недзе знайшліся міліцыянты, што перашывалі б сьвятыню на кашулі. А напісана жвава. Пішэце яшчэ, што на душы.

**Эльяшу Б. зь Менску.** Таму яны і не даюць Вам зьбіраць подпісы за незалежнасьць, што канстытуцыя і законы для іх нічога ня значаць. Яны, у адрозьненьне ад Вас, ня людзі эўрапейскае культуры, для якіх закон — гэта непарушнае ўсталяваньне, аснова бытаваньня. Вы трымаецеся за кожную літару закону і канстытуцыі, бо гэтак Вас прывучылі стагодзьдзі рымскага права і літоўскіх статутаў, а іх — не. Цікавей было б, каб Вы расказалі, як людзі рэагуюць на Вашы прапановы, і не ў агульных рысах, а даслоўна.

**Аляксандру Ў. з Гомеля.** З урыўку пра немцаў і вартавога пачнеце новую нізку.

## КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 213-32-32
E-mail: nn@irex.minsk.by
http://members.nbci.com/nasa_niva/

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г. выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі
Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д 8, кв. 173
Наклад 4627.
Нумар падпісаны ў друк 8.4.2001.
Замова № 1943.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а